ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№4 (2562)

29 студзеня 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 500 рублёў.

СУСВЕТНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ НА БЕЛАРУСІ



## АГУЛЬНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ, ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ПАДЫХОД

**Прадстаўніцтва Сусветнай Арганізацыі аховы здароўя (ВОЗ) распачало сваю работу ў нашай краіне амаль чатыры гады назад. Увесь гэты час узначальвае ўстанову Аляксандр ПІМЕНАЎ, кіраўнік бюро ВОЗ па сувязях і каардынацыі з Рэспублікай Беларусь. Сёння Аляксандр Сяргеевіч — госць"Голасу Радзімы". І першае пытанне да яго, ці мае ВОЗ асобную праграму дзейнасці на Беларусі?**

— Канешне, мае. Сусветная Арганізацыя аховы здароўя працуе з кожнай краінай індывідуальна, будуе сваю дзейнасць у залежнасці ад праблем і патрэб канкрэтных дзяржаў. А іх, дарэчы, 191, і падзелены яны на шэсць рэгіёнаў. Галаўны офіс еўрапейскага рэгіёна, які ўключае пяцьдзесят адну краіну, — у Капенгагене. Раней, у перыяд існавання СССР і сацыялістычнай сістэмы, еўрапейскі рэгіён лічыўся самым спакойным, бо хвароб, як і іншых сацыяльных заган, вядома ж, пры сацыялізме "не было". Аднак і сёння, даючы ў агульную казну ВОЗ 47 працэнтаў узносаў, атрымлівае адтуль шэсць. І гэта нягледзячы на тое, што толькі замест аднаго Савецкага Саюза ўтварылася пятнаццаць самастойных дзяржаў з мноствам рэгіянальных канфліктаў. Там жа, дзе рэзка і значна пагаршаецца агульны стан аховы здароўя, узнікаюць эпідэміі, не хапае лекаў, бальніц і г. д.

**— Ці ўсе краіны павінны плаціць узносы!**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ*

## ЗА ЦІТАЎКАЮ — СЛАБАДА

***Гісторыя вёсак, малых населеных пунктаў, рэдка становіцца прадметам разгляду ў асобных кнігах. Што мы маем такога ў беларускім краязнаўстве, што можна было б па праву, годна, без перабольшванняў асаблівых назваць энцыклапедыяй адной вёскі! Вядома ж, унікальную працу пра сваю родную вёску пакінуў гісторык, археограф, празаік і перакладчык Мікалай Улашчык — "Была такая вёска" (пра Віцкаўшчыну Мінскага павета, а цяпер — Дзяржынскага раёна). З сучаснікаў нашых неблагую кнігу пра родны Моталь Іванаўскага раёна зрабіў журналіст, краязнаўца Павел Стасевіч. Хаця ж якраз там, у вясковых сутонях памяці, прыхавана ўся, лічы, айчынная гісторыя.***

На беразе пухавіцкай Свіслачы (удакладненне, мяркую, да месца, бо ёсць жа і іншая Свіслач — на Гродзеншчыне) услед за ўпадзеннем у яе ціхмяна-рахманай Цітаўкі, раскінула свае хаты Зацітава Слабада. Здавалася б, самая радавая з усіх радавых пухавіцкіх вёсачак. Хіба што толькі крыху яе абрысы праглядаюцца з шашы, што з Мінска праз Пухавічы вядзе на Бабруйск, пасля на Гомель. Ды, праўда, пасунулі зараз лявей шашу, каб траса абыходзіла мястэчка Пухавічы. То ўжо

(Працяг на 5-й стар.)



## БАЛЕТНАЯ СЕНСАЦЫЯ

У Нацыянальным тэатры оперы і балета кампанія "Філіп Морыс" упершыню ў Беларусі праводзіла конкурс на атрыманне прэміі "Лепшая роля года" сярод артыстаў нацыянальнага балета. Гэта прэстыжная прэмія (хрустальная кампазіцыя плюс 5 тысяч долараў ЗША) штогод уручаецца ў многіх краінах Еўропы. А з мінулага года ў Беларусі і Расіі. У конкурсе прымала ўдзел пяцёра салістаў ДАБТа: Уладзімір Далгіх, Веньямін Захараў, Руслан Мінін, Кацярына Шаметавец, Кацярына Фадзеева. На цырымоніі ўзнагароджання прысутнічаў прадстаўнік кампаніі "Філіп Морыс" у Беларусі Дзмітрый Хрол. Пяцёра з шасці ў складзе кампетэнтнага журы практычна аднагалосна прысудзілі галоўны прыз выпускніцы Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча Кацярыне Фадзеевай за роль Раймонды ў аднайменным балеце А. Глазунова, пастаўленым народным артыстам СССР Ю. Грыгаровічам. Кацярына Фадзеева ў трупе тэатра з 1986 года. У яе рэпертуары — вядучыя партыі ў класічных і сучасных балетах — "Рамэо і Джульета", "Шчаўкунчык", "Лебядзінае возера". З трупай тэатра яна гастралявала больш чым у 20 краінах свету. На прэс-канферэнцыі, наладжанай для журналістаў перад пачаткам спектакля, мастацкі кіраўнік тэатра балета Валянцін Елізар'еў сказаў, што журы назвала імя пераможцы практычна адзінадушна. Прымаючы прыз, К. Фадзеева сказала, што расцулена высокай ацэнкай сваёй працы.

Творчыя дасягненні астатніх чатырох намінантаў конкурсу — Таццяны Шаметавец, Уладзіміра Далгіх, Веньяміна Захарава, Руслана Мініна таксама былі адзначаны ганаровымі дыпломамі і заахвочвальнымі грашовымі прэміямі ў памеры 500 долараў ЗША.

Пасля сканчэння ўрачыстай часткі быў паказаны балет "Раймонда".

**НА ЗДЫМКУ: Кацярына ФАДЗЕЕВА.**

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Касцёл святога Андрэя ў Слоніме.** **Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*4-ГОДДЗЕ ВІЗІТУ КЛІНТАНА*

## ВЫБАР — ЗА БЕЛАРУССЮ

**"Візіт прэзідэнта ЗША ў Мінск дэманстраваў нашу падтрымку новай дэмакратыі, станаўленне якой ускладнялася страшным грузам наступстваў чарнобыльскай аварыі і праблемамі пераходнага перыяду". Аб гэтым гаворыцца ў заяве пасольства ЗША ў Беларусі ў сувязі з чатырохгоддзем з дня наведвання Мінска прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. Гэта падзея адбылася 15 студзеня 1994 года.**

**У заяве адзначаецца, што ў сваім выступленні ў Нацыянальнай акадэміі навук прэзідэнт Клінтан падкрэсліваў, што ён не збіраецца дыктаваць Беларусі, як павінны вырашацца праблемы, што стаяць перад ёю. Ён гаварыў аб выкліку, які кідае неабходнасць эканамічных і палітычных пераўтварэнняў. Не толькі Беларусь шукала і шукае шляхі канкурыравання на сусветным рынку, вырашэння такіх сацыяльных праблем, як беспрацоўе, няроўнасць і злачыннасць, спалучэння культурных і духоўных традыцый з патрэбнасцямі сучаснага жыцця і забеспячэння нацыянальнай бяспекі.**

**Падкрэсліваецца, што імкненні і патэнцыял Беларусі ў найбольшай ступені могуць быць рэалізаваны пры ўмове выкарыстання ўжо наяўных пераваг, такіх, як геаграфічнае становішча, кваліфікаваная рабочая сіла, працавітасць і цярпенне народа, магчымасці атрымання высокатэхналагічнай прадукцыі. І, вядома ж, неабходна адначасова ствараць больш спрыяльны і раўнапраўны інвестыцыйны клімат, працягваць эканамічныя рэформы і паляпшаць сітуацыю ў галіне захавання правоў чалавека. "Пры такой колькасці праблем, з якімі прыходзіцца сутыкацца, і неабходнасці пастаянна рабіць выбар ключом да сацыяльнай стабільнасці з'яўляецца наладжванне адкрытага і здаровага грамадскага абмеркавання пры вызначэнні будучага курсу краіны", — адзначаецца ў дакуменце.**

**Амерыканскія дыпламаты заявілі, што Злучаныя Штаты па-ранейшаму хочуць бачыць Беларусь інтэграванай у шырокае еўрапейскае супольніцтва. Але, лічаць яны, Беларусі трэба пераадолець яшчэ нямала перашкод. Рэальная інтэграцыя магчымая толькі ў тым выпадку, калі палітычная і эканамічная сістэмы рэспублікі будуць сумяшчальныя з іншымі сістэмамі ў краінах Еўропы. Менавіта таму, на іх думку, вельмі важна працягваць палітычныя і эканамічныя рэформы, удасканальваючы механізм стрымлівання і процівагаў у сістэме ўлады, ствараючы больш спрыяльныя ўмовы для выказвання нязгоднымі свайго пункту гледжання, развіваючы незалежнасць і давер да судовай сістэмы і скарачаючы дзяржаўны кантроль над эканомікай. Усё гэта станоўча адаб'ецца на далейшай інтэграцыі і эканамічным супрацоўніцтве з усімі краінамі Еўропы, уключаючы Расію.**

**"Бачыць Беларусь квітнеючай, адкрытай і дэмакратычнай, якая мае трывалыя сувязі з усёй Еўропай, хочуць многія, але выбар — за Беларуссю. Працвітанне немагчымае без інтэграцыі, якая, у сваю чаргу, павінна ў большай меры адпавядаць эканамічнай і палітычнай сістэмам Еўропы. Удасканаленне палітыка-эканамічнага ўкладу не дасца Беларусі лёгка, асабліва цяперашняму пакаленню. Аднак намаганні па ператварэнню Беларусі ў сучасную еўрапейскую дзяржаву будуць па заслугах ацэнены падрастаючым і будучымі пакаленнямі", — адзначаецца ў заяве.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ПРЫЯРЫТЭТНАСЦЬ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІХ АДНОСІН

**19 студзеня А. Лукашэнка прыняў пасла Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі В. Цапкалу.**

**Як паведаміла прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы, абмяркоўваўся шырокі спектр пытанняў, якія датычаць беларуска-амерыканскіх адносін. Былі закрануты таксама праблемы, якія існуюць у двухбаковых палітычных адносінах. А. Лукашэнка падкрэсліў, што беларуска-амерыканскія адносіны з'яўляюцца для Беларусі адным з прыярытэтных і іх паглыбленне і актывізацыя бачацца ў якасці найважнейшай задачы знешняй палітыкі беларускай дзяржавы.**

**Прэзідэнт прыцягнуў асаблівую ўвагу В. Цапкалы да задачы пашырэння гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і ЗША.**

**Прэзідэнт адзначыў, што неабходна знайсці шляхі хутчэйшага ўрэгулявання праблем з АПІК — арганізацыяй, якая адказвае за страхаванне амерыканскіх інвестыцый за мяжой.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## ПРЫЗНАЧЭННЕ І КАМЕНТАРЫЙ

**Пётр Краўчанка Указам Прэзідэнта А. Лукашэнкі прызначаны паслом Беларусі ў Японіі. 20 студзеня Пётр Краўчанка, які прысутнічаў на пасяджэнні калегіі Міністэрства замежных спраў Беларусі, пракаменціраваў журналістам сваё прызначэнне на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Японіі.**

**"Я раблюся першым паслом незалежнай Беларусі ў такой вялікай краіне, як Японія, — сказаў былы апазіцыйны палітык. — Няпроста давалася мне гэтае рашэнне, шмат было роздумаў і бяссонных начэй. Аднак рашэнне прынята, і яно звязана з тым, што ў гэты няпросты час мы павінны канкрэтна працаваць на дабрабыт Беларусі, нягледзячы на нашы ідэалагічныя і палітычныя перакананні. Я выбраў канкрэтную працу, як гэта атрымаецца, — меркаваць не мне".**

*УЗНАГАРОДЫ*



**Чатыры сярэбраныя медалі прывезлі з міжнароднага дэгустацыйнага конкурсу, які праводзіўся ў Санкт-Пецярбургу, работнікі Віцебскага лікёра-гарэлачнага завода. Іх бальзам "Чорны рыцар", гарэлка "Мядзведзь", настойкі аказаліся лепшымі сярод прадукцыі амаль двухсот прадпрыемстваў СНД, якія прымалі ўдзел у конкурсе. А нядаўна міжнародная асацыяцыя "Партнёрства дзеля прагрэсу" ў Парыжы прысудзіла Віцебскаму лікёра-гарэлачнаму заводу прыз "Залаты Меркурый".**

**НА ЗДЫМКУ: прадукцыя завода, удастоеная сярэбраных медалёў.**

*ЗДЫМАЕЦЦА КІНО*

## ПРА ФЁДАРА ШМАКАВА

**Здымачная група рэспубліканскага вытворча-творчага прадпрыемства "Белвідэацэнтр" пачала работу над фільмам пра народнага артыста СССР Фёдара Шмакава, акцёра віцебскага тэатра імя Якуба Коласа з 56-гадовым стажам. Фільмы з яго ўдзелам увайшлі ў гісторыю савецкага кінематографа. У іх ліку — "Балтыйскае неба", "Бессмяротная песня", "Паднятая цаліна" і іншыя. У новай дакументальнай стужцы Фёдар Шмакаў сыграе самога сябе.**

*ПРЫЗНАННЕ*

## ПРЭСТЫЖНЫ ПРЫЗ

**Залатым прызам "За камерцыйны прэстыж 1997 года" ўзнагароджаны ў Мадрыдзе ваўкавыскі "Беллакт". Прыз заснаваны Міжнародным клубам гандлю і прысуджаецца тым прадпрыемствам, якія дабіваюцца высокай якасці сваёй прадукцыі і паспяхова гандлююць ёю за мяжой. Сёння "Беллакт" выпускае дзіцячыя прадукты харчавання і з'яўляецца адзіным прадпрыемствам такога тыпу ў краіне.**

*«БЕЛАЯ ВАРОНА»*



**Клуб аматараў і знатакоў мастацтва, майстравых людзей, калекцыянераў, што ствараецца ў Рагачове, вырашана назваць "Белая варона" не выпадкова. Справа ў тым, што так ужо даўно называюць тут Аляксандра Рыкунова, які сабраў цэлыя калекцыі манет, значкоў, паштовак, гістарычных дакументаў, археалагічных знаходак. Значную частку сабранага калекцыянер, які, дарэчы, зусім не крыўдзіцца за атрыманую мянушку, перадаў мясцоваму музею, куды перайшоў працаваць навуковым супрацоўнікам і сам. Вось тут збіральнік каштоўных знаходак "белай варонай", відаць, не будзе.**

*ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ*

## АДМОЎНАЕ САЛЬДА

**За студзень — лістапад 1997 года аб'ём знешняга гандлю Беларусі склаў 14 276,1 мільёна долараў ЗША, павялічыўшыся ў параўнанні з аналагічным мінулагоднім перыядам на 25,2 працэнта. Сальда знешнегандлёвага абароту склалася адмоўнае ў памеры 1 441,7 мільёна долараў ЗША. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў гэты перыяд былі Расія, Украіна, Германія, Польшча.**

*"Мы з'яўляемся сведкамі прадпрымаемых намаганняў па стабілізацыі палітычнай і эканамічнай сітуацыі і навядзенню парадку ва ўсіх сферах жыцця. Гэты курс для многіх з'яўляецца любімым аб'ектам крытыкі. У ім шукаюць і знаходзяць недахопы і ўпушчэнні. Не ўдаючыся ў палеміку, хачу толькі заўважыць, што, з нашага пункту гледжання, нават недасканалы парадак лепш за дасканалы беспарадак.*

*Вялікае значэнне тут мае і прававая база, якой рэгулююцца розныя пытанні жыцця рэлігійных арганізацый. Аб гэтым мне і хацелася б паразважаць разам з вамі.*

*Каля года прайшло з таго моманту, як было пастаўлена пытанне аб неабходнасці ўнясення чарговых змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях". У абмеркаванні гэтых змяненняў прыняла ўдзел і Праваслаўная Царква, што было прадыктавана самім жыццём.*

*У грамадзян, у грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях узрастае трывога з-за бескантрольнага распаўсюджвання розных структур падазронага кшталту, якія прыкрываюцца мілагучнымі шыльдамі рэлігійных і грамадскіх арганізацый. Думаю, сёння ўжо залішне гаварыць, што гэтыя арганізацыі ў сукупнасці ўтвараюць своеасаблівую мафію, якая эксплуатуе ў сваіх мэтах натуральнае імкненне людзей да пазнання духоўнага свету. Мэты гэтых арганізацый разнастайныя, але ўсе яны маюць небяспеку для дзяржавы і асобы.*

*Штучнае, я падкрэсліваю гэта, драбленне грамадства на сектанцкія групы самых неверагодных рэлігійных і акультна-містычных напрамкаў аслабляе грамадзянскае адзінства і сее рэлігійную адчужанасць паміж грамадзянамі. Відаць, недастаткова было падзяліць адзіны народ тэрытарыяльна, палітычна і сацыяльна. Засталося ажыццявіць яшчэ адзін апошні падзел — духоўны. І тады, па вядомаму прынцыпу, можна будзе непадзельна ўладарыць над нашым народам.*

*Ужо чуюцца выказванні некаторых вядомых заморскіх ідэолагаў, якія аб'яўляюць Праваслаўную Царкву сваім галоўным ворагам. Мяркуючы па ўсім, гэтым дзеячам добра вядомая сіла духоўнага адзінства нацый і згубныя вынікі духоўнай раз'яднанасці.*

*Для апраўдання сектанцкай экспансіі выкарыстоўваецца прынцып "свабоды сумлення", які скажона тлумачыццца і на практыцы ператвараецца ў свабоду ад сумлення. Таму пытанне ўжо ставіцца не аб тым, ці трэба змагацца з сектанцтвам, а аб тым, якім чынам яму процістаяць.*

*Дзеючы Закон "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях" прымаўся ў той час, калі гэтыя праблемы не стаялі так востра. У выніку на сённяшні дзень няма дзейснага прававога механізма кантролю за дзейнасцю рэлігійных і грамадскіх структур, заканадаўча не вызначана паняцце рэлігіі і істотныя прыкметы рэлігійнай арганізацыі, таксама, як і паняцце грамадскай дзейнасці і істотныя прыкметы грамадскай арганізацыі. Адсутнічае нават мінімальная прававая дыферэнцыяцыя рэлігійных арганізацый, якая маецца ў заканадаўстве большасці развітых дэмакратычных краін.*

*Хачу падкрэсліць, што яшчэ ніколі не было ні ў нас, ні ў свеце такога засілля сектанцтва. Каб аберагчы сябе і сваіх дзяцей ад гэтага зла, неабходна вывучаць багаслоўе і гісторыю Царквы.*

*Прынцып роўнасці рэлігій перад законам многія працягваюць памылкова тлумачыць як іх роўнасць паміж сабой. Аднак такога няма ў юрыдычнай практыцы еўрапейскіх краін. Пара бы нам усім зразумець, што абарона дэмакратыі і абарона правоў таталітарных сектаў гэта не адно і тое ж. Унутраная палітыка, якая не робіць адрознення паміж Праваслаўнай, Каталіцкай Цэрквамі, Іудаізмам і Мусульманствам, з аднаго боку, і дэструктыўнымі арганізацыямі накшталт тых, якія я ўжо называў, з'яўляецца самазгубнай. Ніхто не абвінавачвае ў недэмакратычнасці, скажам, Вялікабрытанію, Фінляндыю, Нарвегію, Іспанію, Данію, Грэцыю, Кіпр, Германію, Польшчу, Літву, дзе традыцыйныя рэлігіі маюць ці асобы статус з асобымі правамі ў галіне супрацоўніцтва з дзяржавай, альбо прызнаюцца дзяржаўнай рэлігіяй. Дадам, што практычна ва ўсіх краінах Еўропы дзяржава фінансуе розныя праекты сацыяльна-адукацыйнага і духоўнага зместу, якія ажыццяўляюцца традыцыйнымі рэлігійнымі арганізацыямі. Такая палітыка зыходзіць з разумення таго, што сацыяльныя ўстановы Праваслаўнай, Каталіцкай ці, напрыклад, Лютэранскай Цэркваў — гэта магутны фактар грамадскай стабільнасці".*

*(З выступлення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь).*



50 гадоў з дня выпуску першага беларускага дывана ў мінулым годзе адзначыла адкрытае акцыянернае таварыства "Віцебскія дываны" (былы Віцебскі дывановы камбінат).

Гэта адзінае прадпрыемства дывановай галіны ў краінах СНД, дзе наладжаны выпуск усіх відаў дывановых вырабаў і пакрыццяў. Штомесяц тут іх выпрацоўваецца каля 300 тысяч квадратных метраў.



НА ЗДЫМКАХ: група мастакоў прадпрыемства (злева направа) Галіна БЫЧКОЎСКАЯ, Людміла ЦЫБУЛЬСКАЯ, Валерый ШАСТОЎСКІ, Маргарыта КАБАКОВА і Уладзімір ФЕДАРОВІЧ абмяркоўваюць новую распрацоўку; дываны, якія выпускаюцца сёння на камбінаце, дэманструе мастак-каларыст Таццяна МАРУДАВА.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

ДАПАМОГА ЮНІСЕФ

# ВЫГАДАВАЦЬ ЗДАРОВАЕ ПАКАЛЕННЕ

Дзіцячы фонд ЮНІСЕФ быў створаны Генеральнай Асамблеяй ААН пасля другой сусветнай вайны ў 1946 годзе для аказання дапамогі дзецям, якія пацярпелі ад ваенных дзеянняў у Еўропе. Крыху пазней, у 1953 годзе, гэтая арганізацыя ўвайшла ў сістэму ААН на правах пастаяннага члена, яе галоўнай мэтай стала аказанне дапамогі дзецям у краінах, што сталі на шлях развіцця.

Усходняя і Цэнтральная Еўропа заўсёды належала да ліку развітых рэгіёнаў, больш таго, СССР сам пастаянна аказваў дапамогу дзецям іншых краін. Аднак у пачатку 90-х, калі становішча дзяцей у краінах былога СССР рэзка пагоршылася, у Жэневе быў адкрыты рэгіянальны офіс для работы ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, а таксама СНД і Балтыі. Тады ж прадстаўніцтвы ЮНІСЕФ пачалі адкрывацца ў тых краінах, дзе ішлі ваенныя дзеянні ці ўзброеныя канфлікты, перш за ўсё ў каўказскім рэгіёне, у Сярэдняй Азіі, Югаславіі і Румыніі. Зусім нядаўна прадстаўніцтвы ЮНІСЕФ былі адкрыты ў Расіі, Украіне і Беларусі. Аднак дзейнасць данай арганізацыі ў гэтых краінах пачалася значна раней. У прыватнасці, у Беларусі яшчэ ў канцы 1994 года па сумеснай ініцыятыве ЮНІСЕФ і ўрада Беларусі быў пачаты аналіз становішча дзяцей і жанчын у краіне, сюды быў накіраваны кансультант ЮНІСЕФ, а з прадстаўнікоў грамадскіх і ўрадавых арганізацый, навукова-даследчых інстытутаў была створана рабочая група, якая падрыхтавала даклад "Дзеці і жанчыны Беларусі сёння і заўтра". З гэтага часу ЮНІСЕФ пачала аказваць дапамогу дзецям Беларусі ў асноўным у выглядзе гуманітарнай дапамогі тым, хто пацярпеў ад Чарнобыля. Гэта былі дзіцячыя інвалідныя каляскі, спецыяльнае масажнае абсталяванне для дзяцей, хворых на дзіцячы цэрэбральны параліч, спартыўны інвентар, рэабілітацыйнае абсталяванне для дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця. Акрамя таго, ЮНІСЕФ аказваў фінансавую падтрымку дзіцячаму хоспісу і супрацоўнічаў з арганізацыяй "Дзеці Чарнобыля".

Пасля афіцыйнага адкрыцця прадстаўніцтва было пачата доўгатэрміновае планаванне супрацоўніцтва з грамадскімі і ўрадавымі арганізацыямі Беларусі. Мяркуецца, што ў бліжэйшы час будзе падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве, якое вызначыць асноўныя мэты і напрамкі сумеснай работы, а таксама асноўныя ўмовы прысутнасці ЮНІСЕФ у нашай краіне.

Як правіла, мы ацэньваем становішча дзяцей у Беларусі са сваіх нацыянальных пазіцый. А як яно выглядае ў міжнародным кантэксце? Гэтае пытанне мы задалі нацыянальнаму каардынатару ЮНІСЕФ у Беларусі Раісе СУЛАМАА.

— Калі параўноўваць, як жывуць дзеці тут, з умовамі, у якіх ім даводзіцца існаваць у афрыканскіх ці лацінаамерыканскіх краінах, дзе вялікай праблемай з'яўляецца, напрыклад, забеспячэнне чыстай пітной вадой ці імунізацыя, з-за адсутнасці якой гінуць сотні тысяч дзяцей, то ў Беларусі ўсё не так ужо і дрэнна. Аднак несумненна, што сёння вашым дзецям патрабуецца дапамога, і мы яе аказваем, рэалізуючы сумесныя праекты, што прапаноўваюцца альбо беларускім урадам, альбо грамадскімі арганізацыямі.

Зараз распрацаваны тры праграмы. Першая носіць назву "Правы дзіцяці". Беларусь была адной з першых краін, якая падпісала Канвенцыю аб правах дзіцяці, акрамя таго, наша краіна была ўдзельніцай сустрэчы на вышэйшым узроўні ў інтарэсах дзяцей у 1990 годзе і падпісала прынятую там Дэкларацыю аб абароне, развіцці і выжыванні дзяцей. У Беларусі створана нацыянальная камісія па правах дзіцяці, ЮНІСЕФ жа, са свайго боку, аказвае дапамогу ў рэалізацыі праграмы, у прыватнасці, тых напрамкаў, якія адпавядаюць палітыцы і стратэгіі мандата ЮНІСЕФ. Паколькі правы дзіцяці з'яўляюцца адным з найважнейшых напрамкаў дзейнасці ЮНІСЕФ, арганізацыя садзейнічае распаўсюджванню ведаў аб канвенцыі па правах дзіцяці, прававых дакументах, якія ажыццяўляюць прававое рэгуляванне абароны правоў і інтарэсаў дзяцей.

У рэалізацыі другой праграмы "Дзеці Чарнобыля" асноўным партнёрам ЮНІСЕФ з'яўляецца беларускі камітэт з аналагічнай назвай. Праграма прадугледжвае медыцынскую і педагагічную рэабілітацыю і сацыяльна-псіхалагічную дапамогу дзецям, якія пацярпелі ад Чарнобыля, а таксама вырошчванне экалагічна чыстай прадукцыі на забруджаных тэрыторыях, для чаго выкарыстоўваюцца сучасныя тэхналогіі і пэўны від угнаенняў.

Мэтай трэцяй праграмы "Здароўе і развіццё дзяцей і моладзі" з'яўляецца абарона падлеткаў ад асноўных фактараў рызыкі, якім яны падвержаны ў сям'і і грамадстве ў пераходны перыяд. Яна ўключае ў сябе цэлы шэраг праектаў, такіх, як абарона рэпрадукцыйнага здароўя, што накіраваны на прафілактыку ранніх абортаў сярод падлеткаў і будзе рэалізаваны сумесна з Міністэрствам аховы здароўя ў наступным годзе. Другі праект прадугледжвае прапаганду здаровага ладу жыцця, прафілактыку СНІДу і венерычных захворванняў.

Адна з галоўных задач, якую вырашае ЮНІСЕФ, — абмежаванне прытоку дзяцей у дзяржаўныя сіроцкія ўстановы, і таму ва ўсіх краінах гэтая міжнародная арганізацыя падтрымлівае праекты, накіраваныя на развіццё альтэрнатыўных форм выхавання дзяцей. Таму яшчэ адна праграма, у рэалізацыі якой актыўны ўдзел прымае ЮНІСЕФ, — гэта развіццё ў Беларусі сеткі сямейных дзіцячых дамоў. Пілот-праект, які ўжо працуе, пакажа, наколькі эфектыўная гэтая праграма, пакуль жа арганізацыя працуе з сямейным дзіцячым домам Глухавых у Бабруйску. Яны ж, у сваю чаргу, праводзяць работу па навучанню бацькоў-выхавацеляў ужо існуючых у рэгіёне дзіцячых дамоў.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

# АГУЛЬНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ, ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ПАДЫХОД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Павінны ўсе. Аднак вельмі многія проста ігнаруюць свой абавязак — нават былы СССР (цалкам разлічваюцца толькі Беларусь і Узбекістан, часткова Казахстан і Расія). Украіна, Арменія, Грузія з-за хранічных неплацяжоў нават пазбаўлены права голасу.

**— Якога кшталту дапамогу аказвае ВОЗ Беларусі?**

— У першую чаргу, як і астатнім, тэхналагічную, метадалагічную і кансультацыйную. Хаця, здараецца, і матэрыяльную, але ў абмежаваных памерах і толькі ў экстраннай сітуацыі. Напрыклад, у 1994—1995 гадах мы атрымалі ад ВОЗ дыфтэрыйную вакцыну для прышчэпак. Становішча тады было вельмі цяжкае: Беларусі паўсюль адмовілі ў пастаўцы вакцыны, нават у Расіі. ВОЗ за ўласны кошт практычна цалкам забяспечыў нашы патрэбы. Таксама ВОЗ аказаў істотную дапамогу, калі ў Светлагорску адбылася сапраўдная ўспышка СНІДу. Сумесна з іншымі агенцтвамі (ЮНІСЕФ) арганізуюцца пастаўкі халадзільнікаў для захавання вакцыны ў медыцынскіх установах краіны.

Увогуле супрацоўніцтва вядзецца па сярэднетэрміновых праграмах, разлічаных звычайна на два гады. З задавальненнем магу канстатаваць: выконваюцца яны нядрэнна. Нядаўна падпісана пагадненне аб сумеснай працы на 1998—1999 гады. У сувязі з гэтым хачу зноў падкрэсліць: нельга разглядаць аддачу ад супрацоўніцтва з ВОЗ меркантыльна: мы вам узносы, а вы нам дапамогу на тую ж суму ці нават большую. Праз ВОЗ Беларусі забяспечваецца доступ да лепшых сусветных тэхналогій у галіне аховы здароўя. Вось што вельмі важна! І другое. Існуюць праблемы, з якімі Беларусь адна не справіцца, а праз ВОЗ краіна атрымлівае дапамогу і спадзяецца на добры вынік.

**— Якія сумесныя праекты плануецца ажыццявіць на працягу 1998—1999 гадоў?**

— Прыярытэтнымі вызначаны шэсць накірункаў.

Рэформа сістэмы здароўя. Мэта — пры найменшых выдатках дасягнуць найвышэйшага ўзроўню стану здароўя людзей.

Здароўе маці і дзіцяці. Тут Беларусь выглядае вельмі нядрэнна: напрыклад, праблема дзіцячай смяротнасці ў краіне вырашаецца досыць паспяхова. Сумесна з ВОЗ мы нават праводзім у сябе міжнародныя семінары, бо ўжо маем добрыя напрацоўкі.

Далей. Барацьба з інфекцыйнымі хваробамі, што для Беларусі вельмі актуальна, асабліва па прафілактыцы і лячэнню туберкулёзу і сексуальна перадаваемых хвароб.

Наступныя раздзелы: вынікі чарнобыльскай аварыі; прафілактыка неінфекцыйных захворванняў (нацыянальная праграма "Здаровы лад жыцця", дыябет, здароўе поласці рота); СНІД; злоўжыванне псіхаактыўнымі і іншымі рэчывамі; палітыка ў галіне лекаў.

**— Аляксандр Сяргеевіч, як выглядае Беларусь на агульнаеўрапейскай "карце здароўя"?**

— Галоўная мэта нашага супрацоўніцтва з ВОЗ — дасягненне насельніцтвам Беларусі максімальна магчымага ўзроўню здароўя, што трэба разглядаць як стан поўнага фізічнага, сацыяльнага і духоўнага задавальнення, а не толькі адсутнасць якіхсьці хвароб ці дэфектаў.

Што тычыцца канкрэтнага сённяшняга становішча, у сістэме аховы здароўя Беларусі не ўсё так дрэнна, як, бывае, малюецца. Хаця па фінансаванні на душу насельніцтва краіна пакуль "не выцягвае" належны ўзровень. А вось падрыхтоўка ўрачоў — вельмі неблагая. У той жа час з медсёстрамі — асаблівага плёну не атрымліваецца: яны ў нас нібы пісары пры дактарах, а павінны быць партнёрамі. Эпідэмслужба — адна з мацнейшых у Еўропе. А ў галіне барацьбы з дыябетам Беларусь практычна з'яўляецца своеасаблівай школай перадавога вопыту для краін еўрапейскага рэгіёна. Такім чынам, праводзячы адпаведныя рэформы (а яны сапраўды неабходныя), трэба быць асцярожнымі: глядзець, каб з вадой не выплюхнуць і дзіця.

Адносна ж заган... Іх, канешне, хапае. Напрыклад, па венерычных захворваннях, лічу, настаў час абвяшчаць сапраўднае надзвычайнае становішча. Ды і каб толькі тут!

**— Аляксандр Сяргеевіч, дзякую за гутарку. Мы ўсе шчыра спадзяемся, што трывожных сігналаў на той самай "карце здароўя" нашай краіны будзе ўсё меней і меней і беларусы ўрэшце зробяцца сапраўды здаровай нацыяй.**

Гутарку вяла
Галіна УЛІЦЁНАК.

*НАМ ПІШУЦЬ*

# БАРЫС КІТ У ВІЛЬНІ



10 студзеня гэтага года Таварыства беларускай культуры і рэдакцыю "Руні" наведаў наш вельмі паважаны і слынны суайчыннік Барыс Кіт. Для нас быў вялікі гонар прымаць такога госця. Барыс Кіт успамінаў свае юнацкія гады, вучобу і працу ў калысцы беларускага нацыянальнага руху — Вільні. На сустрэчы былі былыя вучні віленскай беларускай гімназіі Лявон Кароль, Яўгенія Навумчык. Яны нагадалі эпізоды з жыцця гімназіі і дзейнасці спадара Кіта.

Барыс Кіт вядомы ў замежжы як вялікі навуковец, распрацоўшчык ракетнага паліва, які працаваў у розных навучальных установах Германіі, ЗША і ўнёс вялікі ўклад у развіццё навукі і эканомікі гэтых краін. На жаль, такі патэнцыял не быў выкарыстаны нашай Бацькаўшчынай. Але гэта, напэўна, такі лёс беларусаў: узбагачаць эканоміку, культуру, навуку іншых краін. Так было раней, так адбываецца і цяпер — уцечка мазгоў ідзе вельмі шпаркімі тэмпамі.

Барыс Кіт вітаў газету "Рунь", якую адзначыў як адну з цікавых беларускіх газет замежжа. "Рунь" пачала выходзіць у Вільні з 1997 года, сродкаў для яе ўтрымання няма, падпісчыкаў мала, яна выдаецца дзякуючы вялікаму энтузіязму рэдакцыі і намаганням ТБК, і такая ацэнка спадара Кіта была вельмі прыемнай, тым болей, што ён падтрымаў нас і матэрыяльна — ахвяраваў грошы на наступны нумар.

Нас вельмі цікавіла жыццё і дзейнасць беларускіх арганізацый у міжваенны час у Вільні. Мы пачулі многа новага. У час размовы ўсе прыйшлі да высновы, што Барысу Кіту трэба занятца напісаннем успамінаў пра віленскую частку свайго жыцця, пра дзейнасць беларускай віленскай гімназіі, дзе ён быў дырэктарам, тым болей, што хутка будзе юбілей гімназіі — 80 гадоў з дня яе заснавання. Час ідзе, і жывых сведкаў адкрыцця і пачатку дзейнасці гімназіі застаецца вельмі мала, таму трэба выкарыстоўваць усе магчымасці. Спадар Кіт вітаў гэтую думку і прапанаваў нашай рэдакцыі сумесна працаваць над успамінамі.

На развітанне Б. Кіт падарыў удзельнікам сустрэчы кнігу Лідзіі Савік "Космас беларуса". Была выказана думка, што наступная сустрэча будзе болей працяглай, бо жадаючых сустрэцца і пагутарыць з ім вельмі шмат, а тым болей, што цяпер час у яго быў абмежаваны.

Мы, у сваю чаргу, жадаем спадару Кіту моцнага здароўя, плёну ў працы. І да новых сустрэч тут, у Вільні! А чытачам "Руні" — сустрэч з гэтым цікавым чалавекам на старонках газеты.

**Павел САЎЧАНКА.**

г. Вільня.

**НА ЗДЫМКУ: Барыс КІТ у Вільні. 10 студзеня 1998 года.**

# ДЗЯКУЙ НАШЫМ БЕЛАРУСАМ

У адпаведнасці з планам Міжнароднай федэрацыі па веласіпеднаму спорту 18 верасня мінулага года Людміла Гаражанская з трэнерам Сяргеем Рабчуком прыехалі ў Адэлаіду (Аўстралія), каб прыняць удзел у Кубку свету сярод веласіпедыстаў.

21 верасня Л. Гаражанскай належала прыняць удзел у спаборніцтвах сярод жанчын на дыстанцыі 20 кіламетраў на трэку. У выніку Людміла заняла 10, не зусім здавальняючае месца. Аднак па суме шасці этапаў Кубка ў яе было сёмае месца.

Перад самым пачаткам спаборніцтваў да нас падышоў сталы чалавек і сказаў, што ён В. Ткачук, беларус, родам з-пад Навагрудка, працуе тут святаром абшчыны беларускай царквы.

Нас вельмі ўразіла, што ён размаўляе на найчысцейшай беларускай мове, зацікавіў яго лёс, як ён апынуўся ў Аўстраліі. Зямляк таксама пацікавіўся пра наша жыццё-быццё ў Беларусі. Калі ён даведаўся, што хутка мы ад'язджаем у горад Перт, то параіў нам звярнуцца да Міхася Раецкага, калі нас цікавіць жыццё беларусаў на зялёным кантыненце, а, магчыма, нам будзе патрэбна дапамога.

Здарылася так, што спаборніцтвы праходзілі аж но за 22 кіламетры ад месца, дзе мы жылі. Гэта вельмі перашкаджала рыхтавацца да галоўнага старту года — чэмпіянату свету, і таму вырашылі звярнуцца па дапамогу да ўжо названага Міхася Раецкага.

Адразу пасля тэлефоннай размовы з Раецкім да нас прыехаў Анатоль Бразоўскі (урач), які выслухаў усе нашы просьбы, а праз некалькі гадзін да нас прыехала Марыя Мароз з сынам Аляксандрам. Марыя і Аляксандр зрабілі ўсё магчымае, каб уладкаваць нас за паўтара кіламетра ад месца спаборніцтваў.

Асабістую падзяку хочацца выказаць Марыі і Аляксандру Мароз, якія сваёй павагай, шчырасцю, цёплымі адносінамі зрабілі тое, чаго мы і не чакалі. Яны пазнаёмілі нас з сваімі дзецьмі, унукамі, роднымі і блізкімі людзьмі. З іх дапамогай мы па-сапраўднаму ўбачылі частку Аўстраліі, марскі музей, лясны музей, вадасховішча, непаўторны жывёльны свет. А, асноўнае, мы даведаліся, як жывуць тут беларусы і якімі намаганнямі гэта салодкае жыццё дасталася ім. Цяжка пералічыць усіх добрых, простых людзей, з якімі нам давялося пазнаёміцца. Нас вельмі ўразілі і прыемна здзівілі іх адносіны да Беларусі, свайго народа, жаданне дапамагчы Радзіме ў адраджэнні і ўмацаванні незалежнай дзяржавы.

Хутка праляцелі 20 дзён, і мы адбылі на Радзіму, павезлі з сабой любоў беларускіх людзей, якія жывуць на зялёным кантыненце. Мы не сказалі ім: "Бывайце", мы сказалі: "Да пабачэння ў 2000 алімпійскім годзе".

**Сяргей РАБЧУК.**

г. Брэст.

# КАЛЯДНАЯ ВЕЧАРЫНА Ў «СЯБРЫНЕ»

На Калядную вечарыну сабралася каля сотні ўдзельнікаў і гасцей. Старшыні "Сябрыны" Раману Вайніцкаму, Міраславе Русак, Валянціне Кавальчук, Івановай і Старавойтаву давялося нямала папрацаваць (сумесна з цэлым штабам ахвярных памагатых), каб дастойным чынам забяспечыць мерапрыемства святочным убраннем, багатай музычнай і традыцыйна-абрадавай праграмай і падарункамі.

Вялікая ёлка зіхацела сотнямі агнёў. Гірлянды і цацкі, мноства свечак і мілагучная калядная музыка стварылі святочны настрой. Пачатак урачыстага вечара выявіў прыемную навінку: у праграме не было казёншчыны!

Ніхто не нудзіў доўгімі і няшчырымі афіцыйнымі прамовамі!.. Нікім і нічым не вымушаны, свабодны і вясёлы настрой ахапіў грамаду. Тым больш, што многія прысутныя належалі да багемы — паклоннікаў музаў (мастакі, спевакі, танцоры). Не траціла гумару і грамада маладых педагогаў беларускай школы, а таксама сябры маладзёжнай суполкі.

Сярод мноства знаёмых твараў вызначаліся "хросныя бацькі" "Сябрыны": А. Аніщчык, В. Стэх, М. Русак, Станкевіч, Аблажэй. На жаль, па сямейных прычынах адсутнічаў першы старшыня арганізацыі — Мікалай Матач, а таксама С. Карабач і Людвіка Кардзіс, др. Банайціс. Яны актыўна дапамагалі станаўленню клуба ў першыя, самыя цяжкія гады.

Вечар распачаўся ўрачыстым выкананнем прысутнымі традыцыйнай каляднай песні. Пры выключаным электрычным асвятленні ціха гарэлі ў руках жанчын і дзецюкоў запаленыя свечкі, падымаліся ў неба ўрачыста-натхнёныя гукі песні-гімна. Здавалася, з хвалямі мелодыі ўздымаемся ў таемныя касмічныя далі, поўныя ласкі і спаўнення надзей... Мір і спакой, цеплыня нашых сэрцаў, здавалася, зліліся ў няўлоўным рытме яднання і радасці...

Скончылася песня. Успыхнулі і залілі пакой электрычным бляскам сотні лямпачак. Аднекуль з'явіўся са "звяздою" старэйшы педагог Яраслаў Саўчанка. Пасыпаліся поўныя гумару іскрыстыя прыказкі, традыцыйны фальклор перамяшаўся з сучаснасцю. Жарты, рэплікі, віншаванні і пажаданні. Шум, смех і гоман асаблівa ўзмацніліся, калі адказны за вечар Раман Вайніцкі запрасіў усіх да масавага ўдзелу ў песнях і віншаваннях.

Дзесяткі ўдзельнікаў вечара ў кароткіх і шчырых словах выказвалі ўдзячнасць і найлепшыя пажаданні стваральнікам і кіраўнікам "Сябрыны", якая хутка пасля свайго нараджэння стала ініцыятарам і арганізатарам Таварыства беларускай культуры, Таварыства беларускай школы ды іншых беларускіх суполак. Асаблівa цёплыя прывітанні і пажаданні былі скіраваны да Міраславы Русак, Тацяны Поклад, Валі Кавальчук і ўдзельніц харавога ансамбля. Галоўным матывам было: "Каб збыліся ўсе вашы задумы і пажаданні!"

Шчодра сыпаліся калядныя прыказкі: "Каб у вашай хаце было па дзіцяці", "Каб у добрай сям'і — усе багатымі былі!" ды іншыя іскрыстыя, бадзёрыя і жартоўныя выказванні.

Цэлую буру гоману і смеху выклікалі "Згаданкі" і традыцыйныя гадanni. Беспералынныя воклічы і рогат выклікалі ўдала выкананыя нумары "Мядзведзя", каторы ўрэшце схапіў і панёс красуню дзяўчыну.

Трэба адзначыць, што на працягу ўсяе праграмы фальклор умела пераплятаўся з індывідуальнай мастацкай творчасцю. Нарэшце зморaння "бацькі і дзеці" рашылі падмацавацца шклянкай гарбаты (а хто хацеў — кавы) з канапкамі і садавінай. Аднак ці ж можна ўседзець, калі грыміць музыка, клічуць "Лявоніха" і танга?..

Хутка ў зале зрабілася цесна. Маладзейшыя і старэйшыя завіхрылі каляровымі спаднічкамі ды іншымі ўборамі, гумар і весялосць у імклівым рытме развеялі ўсе клопаты і смутак штодзённай злыбяды. Не абышлося і без сольных нумароў, хоць нялёгка было выкраіць свабодны кружок паркету. Узбагацілі праграму розныя гульні і прызы, якія асаблівa зацікавілі маладшае пакаленне.

Маланкай праляцелі некалькі гадзін. Калядны вечар быў на рэдкасць удалым. Шчырая падзяка Вайніцкаму, Ярмоліна, Івановай, Русак і тым, хто ім дапамог падрыхтаваць традыцыйнае святкаванне.

**А. ЗІНКЕВІЧ.**

г. Вільня.

# ЯК ДАЛЁКА ДА ХРАМА?

Шлях ад Нарвы да Пюхціц, што амаль у цэнтры Эстоніі, можна пераадолець за якія паўтары гадзіны. Але, выходзячы з аўтобуса, адчуваеш, што трапляеш у зусім іншы свет. Паветрам тут не проста дыхаеш — яго амаль што п'еш.

А ад прыгажосці навакольля літаральна нямееш. І не адчуваеш патрэбы размаўляць. Цішыня запаўняе істоту, і з'яўляецца жаданне маўчаць і слухаць гэтую цішыню і са здзіўленнем прыслухоўвацца да таго, што адбываецца ўнутры цябе: у думках, у пачуццях...

Гэта першае маё ўражанне, калі апынулася на святой зямлі. Тут адчуваеш, што ўжо не можаш звычайна жыць, узнікае патрэба зноў і зноў вяртацца сюды — гэта ўжо часцінка твайго жыцця.

Курэмяе, Жураўлiная гара (у перакладзе з эстонскай), на якой у XVI стагоддзі адбылося цудоўнае з'яўленне Маці Божай спачатку эстонскім пастухам, а затым і іх аднавяскоўцам. Тут на магутным дубе быў знойдзены цудадзейны абраз Успення Багародзіцы, у гонар якой неўзабаве быў заснаваны Пюхціцкі манастыр з галоўным храмам Успення.

Унізе пад гарой у тыя тры дні з'яўлення Багародзіцы людзям забруіла жыццёносная крыніца, воды якой лечаць вернікаў ад цяжкіх хвароб і ачышчаюць душу.

Святая зямля Курэмяе паліта крывёю воінаў князя Аляксандра Неўскага, яна ж іх, загінуўшых, прыняла ў лона сваё.

Кожную пядзю яе цалаваў Іаан Кранштацкі.

Гэтая святая зямля стала апошнім прытулкам сыноў Беларусі.

І вось, каб аддаць даніну павагі, споўніць доўг жывых перад нябожчыкамі, беларусы Нарвы з аб'яднання "Спадчына" адправіліся 1 лістапада мінулага года, у Дзмітраўскую суботу, ці, як называюць дзень гэты на Беларусі, Дзяды, да сваіх суайчыннікаў, што загінулі ў час грамадзянскай вайны. Ляжаць яны ў брацкай магіле, над якой узвышаецца помнік з надпісам, што тут пахаваны жыхары навакольля і вайскоўцы, якія загінулі ў час эпідэміі тыфу. Але ведаем толькі, што тут пахаваны ваяры 2-га стралковага корпуса пад камандаваннем генералмаёра Булак-Балаховіча.

Можа хто зробіць папрок: "Дык то ж белагвардзейцы! Ворагі!" Не трэба жорстка вызначаць, які колер каму дaспадобы: белы, ці чырвоны, ці які іншы.

Гісторыя і час расстаўляюць свае кропкі над "і". Бог судзіць не па колеру. І не нам, простым смяротным, судзіць сёння, хто быў невінаваты, хто вінаваты ў той жорсткай грамадзянскай братазабойчай вайне. Гэтыя невядомыя салдаты — нашы землякі, нечыя сыны і браты. Няма ўжо іх бацькоў, і не нарадзілі самі яны дзяцей. Значыць мы, іх суайчыннікі, павінны замяніць ім родных. На гэта і прызначаецца нацыянальны дзень памяці — Дзяды, каб памянуць кожнага добрым словам, памаліцца за душы тых, хто адышоў у іншы свет. І вернікі ўпэўнены, што гэтыя душы, дзяды, заўсёды з намі, побач, яны аберагаюць нас, жывых.

Вера ў гэта нарадзіла добрую народную традыцыю — памінаць дзядоў, каб яны ахоўвалі нас. На Беларусі свята падтрымліваецца гэтая традыцыя. Таму ніхто дрэнна не казаў ні аб нябожчыках, ні аб адсутных. Толькі памінанне добрым словам.

Мы ўсклалі кветкі на брацкую магілу, дзе, ведаем, ляжаць нашы суайчыннікі. Хто яны? Як іх імёны, адкуль яны родам, тое невядома. Не знойдзены звесткі аб іх у архівах. Мы яшчэ павінны зрабіць гэтую справу.

Экскурсія, якую праводзіла сястра Ірына, уразіла ўсіх. Слухалі стаіўшы дыханне. Так проста і глыбока распавядала яна аб гісторыі ўтварэння Пюхціцкага манастыра, аб пакутах, якія выпалі на долю сясцёр у час розных войнаў, у савецкі час. Сэнс існавання іх — служэнне Богу, дапамога людзям-вернікам і тым, хто шукае свой шлях да веры.

Надзвычай смачным быў абед у сястры Агніі. І над усім панаваў дух цеплыні і клопату ігуменні матушкі Варвары. Нізкі паклон ёй і ўсім сёстрам манастыра.

Ну а нам? Можа, досыць блукаць у поцёмках? Дай Бог дайсці сваім шляхам да Храма. І памятаць сваіх суайчыннікаў, сваіх братоў. Гэта ж наша спадчына. Тая спадчына, якую рыхтуем сваім дзецям.

Божухна, дапамажы!

**Таццяна КАРАТКЕВІЧ-ЦЫГАНОК, старшыня БЭКАЗ "Спадчына".**

Эстонія.

*МЕМАРЫЯЛ*

# МАЎКЛІВЫЯ СВЕДКІ

Надзвычай выгаднае геапалітычнае становішча Беларусі спакон веку вабіла нашых суседзяў — Польшчу з захаду і Расію з усходу. Усе яны прагнулі падпарадкаваць гэтыя землі сабе, выкарыстоўваючы разнастайныя сродкі і метады.

Барацьба за абшары была адной з найгалоўнейшых прычын вайсковага сутыкнення паміж адроджанай Польшчай і бальшавіцкай Расіяй у 1919—1921 гадах, якое атрымала назву — савецка-польская вайна. Яна ішла з пераменным поспехам для варагуючых бакоў, агнявымі хвалямі пракатваючыся па беларускай зямлі з усходу на захад, з захаду на ўсход, несучы з сабою смерць і пакуты, асабліва для мірнага тутэйшага насельніцтва, якое, пэўна, лічыла пачатак XX стагоддзя за "канец свету". 18 сакавіка 1921 года шляхам папярэдніх дамоў знясіленыя Польшча і Расія нарэшце спынілі кровапраліцце і падпісалі канчатковы дакумент, гэтак званую Рыжскую мірную дамову, у выніку якой, як пісаў Якуб Колас, "нас падзялілі... чужаніцы... махляры", разадраўшы беларускую зямлю і яе народ на дзве часткі — заходнюю і ўсходнюю.

З таго часу на нашай шматпакутнай зямлі маўклівымі сведкамі крывавых баёў стаяць польскія могілкавыя мемарыялы і крыжы. Гэты від помнікаў у беларускай гістарычнай навуцы з-за ідэалагічных і палітычных забаронаў, якія існавалі раней у гады БССР, абсалютна не даследаваны і не апісаны. Трэба, мусіць, ужо гісторыкам звярнуць на іх увагу. Праведзеныя доследы дазволілі б больш аб'ектыўна асэнсаваць гісторыю нашай краіны ў 1919—1921 гадах, зменшыць вялікую колькасць існуючых "белых плямаў" і навязаных стэрэатыпаў. У прыватнасці, вызначэнне месцаў захавання польскіх вайскоўцаў і іх маштабы спрыяла б удакладненню і больш выразнаму адчуванню памераў і глыбіні людской трагедыі, якая адбывалася ў гэты час на нашай зямлі. Не варта забываць той нацыянальна-трагічны момант, што на баку польскага і бальшавіцкага войскаў былі і беларускія хлопцы. Магчыма, іхнія рэшткі спачываюць у роднай зямлі як чужынцы. Акрамя таго, гэта магчымасць вырашэння шматлікіх навуковых праблем.

Аўтар гэтых радкоў вырашыў здзейсніць некалькі крокаў у гэтым кірунку. Былі даследаваны польскія вайсковыя могілкі ў мястэчку Дунілавічы (Пастаўскі раён) і польскі вайсковы мемарыял ля вёскі Малая Каўпеніца (Баранавіцкі раён).

Дунілавіцкія вайсковыя могілкі былі ўрачыста адкрыты на месцы пахавання загінуўшых улетку 1920 года польскіх жаўнераў 26 чэрвеня 1930 года з удзелам тагачаснага прэзідэнта Польшчы Ігнацы Масціцкага. Яны ўяўляюць сабой квадратны пляц памерам 80х80 метраў, абгароджаны з усіх чатырох бакоў металічнаю агароджаю з каменнымі слупамі праз кожныя 15 метраў. На могілках стаяць 64 бетонныя паўтараметровыя крыжы з надпісам: "Невядомы жаўнер. 1920". Колькасць пахаваных невядомая, аднак на некаторых магілах магчыма прачытаць імёны і прозвішчы. Сярод іх: Кавалер ордэна Віртуці Мілітары паручнік I лётнай эскадрыллі Антоні Свяціцкі, які загінуў 25 чэрвеня, жаўнеры 30-га пяхотнага палка: Міхал Пелка, Уладзіслаў Мышар, Фабіян Палкоўскі, Ян Бар, Анджэй Беняк, Адам Дэбінскі, Юзэф Геніх, Станіслаў Меяк, Палікарп Купельскі, Юзэф Сельбук, Вацлаў Стбоек, Леон Трачэк. У цэнтры могілак стаіць паўметровы ў вышыню квадратны пастамент з надпісам на трох баках: "Пабудаваны руплівасцю камітэту пад кіраўніцтвам старасты Віктара Незвецкага і таксама ганаровага сябра таварыства Юзэфа Хртышкіча камандзіра 30-га пяхотнага палка палкоўніка Ульрыха", "Прэзідыум Камітэту: старшыня —



Вацлаў Вэбер, сакратар — Уладзіслаў Булат, скарбнікі — Альберт Наўроцкі, Антоні Шкота", "Пасвенчаны дня 26 чэрвеня 1930 г. у прысутнасці спадара прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігнацы Масціцкага пад старшынствам ксёндза-пробашча Станіслава Мажэйкі".

На пастаменце быў усталяваны вялікі бронзавы польскі арол, якога пасля прыходу Чырвонай Арміі ў мястэчка ўвосень 1939 года скінулі ў возера. Могілкі знаходзяцца ў даволі добрым стане, за імі вядзецца перыядычны догляд. У 1990 годзе ля пастамента быў усталяваны пяціметровы драўляны каталіцкі крыж.

Каўпеніцкі мемарыял знаходзіцца на старых Баранавіцкіх могілках у значна горшым стане, чым у Дунілавічах, і ніякага догляду не мае. Уяўляе ён з сябе невялічкі комплекс, у складзе якога статуя польскага жаўнера ў смутку (у статуі адбіта галава). З абодвух бакоў помнік абкружае невысокі бетонны мур з арнаментам і вывамі Езуса Хрыста. Перад помнікам укапаны металічны зэдаль для наведвальнікаў. З-за пашкоджанняў мемарыяла цяжка ўстанавіць дату яго заснавання і інфармацыю аб загінуўшых.

Вядома, што далёка не ўсе польскія мемарыялы захаваліся да нашага часу. Значная частка іх яшчэ ў 40—60-я гады была па-варварску знішчана пры будаўніцтве па загаду партыйных уладаў альбо проста загінула ад недагляду. Таму на даны момант вызначыць іх колькасць і выгляд вельмі складана. Даследчык вымушаны будзе звярнуцца толькі да архіваў і ўспамінаў. У гэтай сувязі хацелася б згадаць два ўжо не існуючыя помнікі, прысвечаныя падзеям савецка-польскай вайны, у Баранавічах.

Першы з іх месціўся на скрыжаванні вуліц Савецкай і Леніна (да 1939 года — Варшаўская). Гэта быў цэнтральны гарадскі помнік загінуўшым польскім жаўнерам у 1919—1921 гадах. Дакладна невядома, што ўяўляў з сябе мемарыял, але старыя здымкі паказваюць высокі гранітны пастамент на прыступках з надпісам, абкружаны невысокаю бетоннаю агароджаю. Прыгожыя ліхтары асвятлялі яго вечарам і ноччу. Пасля заканчэння вайны, у 1944—1946 гадах, ён быў зруйнаваны па загаду партыйных органаў, і менавіта на ягоным месцы ўстаноўлена скульптура Сталіна. З 1960 года і па сённяшні час у 30-ці метрах ад былога месца польскага помніка стаіць статуя Леніна.

Другі знаходзіўся на вуліцы Вільчкоўскага, у 100—150 метрах на поўнач ад сучаснага будынка чыгуначнага вакзала Баранавічы-Цэнтральныя. Відавочцы сведчаць, што гэта быў невялічкі памятны знак загінуўшаму польскаму лётчыку на месцы падзення самалёта. Быў агароджаны маленькім металічным плотам. Разбураны напрыканцы 50-х гадоў пры будаўніцтве жылога дома.

Натуральна, даследаванне толькі некалькіх мемарыялаў не шмат дае навуцы, але калі ўлічыць, што практычна ў кожным заходнебеларускім горадзе, мястэчку і нават часам ля вёсак знаходзяцца альбо знаходзіліся гэтыя помнікі гісторыі, пры належнай руплівасці і адпаведных умовах іх вывучэнне несумненна дапаможа больш аб'ектыўна асэнсаваць пэўныя цьмяныя старонкі найноўшай беларускай гісторыі.

**Віктар АСТРОГА.**

# ЗА ЦІТАЎКАЮ – СЛАБАДА

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

з новай дарогі і Зацітавай Слабады не відаць. Ды і Слабод на Пухаўшчыне... Між іншым, кніга "Вусце" Уладзіміра Ляпёшкіна (і ён — пухаўчанін, нарадзіўся ў вёсцы Церабель, бліжэй да Рудзенска), выдадзеная ўжо ці не чвэрць стагоддзя назад, адкрываецца вершам пра Слабоды:

**У раёне любым, дзе бярэзін чародкі,**
**Ад далёкіх часоў гістарычных,**
**відаць,**
**Сустракаюцца вёскі пад назвай**
**Слабодка**
**Ці пасёлкі, што здаўна завуць**
**Слабада.**
**Слабада ці Слабодка — адзін сэнс**
**ягоны**
**І бярэ свой пачатак з далёкіх**
**часоў,**
**Калі продкі, ланцуг разарваўшы**
**прыгону,**
**Выкуплялі надзелы пяску між лясоў.**
**Пяцярнёю часалі ў задуме бароды,**
**А работы ішло, а турботаў плыло.**
**І ў гонар**
**так званай**
**адноснай свабоды**
**Слабадой называлі, Слабодкай жытло.**
**У бурносах, у лапцях дарогі тапталі,**
**Ад работы спакою не мелі і сіл,**
**Перасохлыя губы малітву шапталі,**
**І плыло ў курных хатах:**
**"Есі... небесі..."**
**Не радзіла зямля, не буйнелі ўсходы,**
**Наракалі дзяды і бабулі на лёс...**
**Праўнукам слабажан і дэкрэт аб**
**свабодзе,**
**І сапраўды свабоду Кастрычнік**
**прынёс.**
**Далі сілу, і моц, і разгон**
**пяцігодкі,**
**Палымнеюць над імі сцягі ўгары...**
**Толькі назвы былыя Слабоды, Слабодкі**
**Аб далёкай нялёгкай гавораць пары.**

Сапраўды, дастаткова ў вершы сацыяльна-палітычнай лексікі. Але ж, пэўна, і ў назве Слабада — тапонім паходжання сацыяльна-палітычнага. На Пухаўшчыне Слабада не толькі Зацітава, не толькі за Цітаўкаю. Але ж спярша — пра Зацітаву... Краязнаўца з Мар'інай Горкі Т. Важнік у артыкуле "У назве — жыццё шаноўных продкаў" у газеце "Пухавіцкія навіны" піша наступнае: "Адзін дзівак-вандроўнік вырашыў даведацца, дзе пачынаецца наша Цітаўка. Ішоў і ехаў уздоўж рачулкі, якая вілася і выпроствалася ля Зарэчча да Блоні, Дайнавы ды Навасёлак, каля Бору ды Падвілля. Чым далей кіраваў чалавек супраць цячэння, тым вузейшая яна станавілася. І дайшоў ён да ручая, які пачынаўся каля пасёлка Доўгі непадалёк ад Цітвы. Цітва (раней старыя жыхары называлі вёску Ціцьва) — па імені Ціта, багатага ў акрузе чалавека. Відаць, і рачулку, якая працякала тут, назвалі ў гонар гаспадара — Цітаўкай. А несла рэчка свае воды ў Свіслач — і заканчвалася там, за ўладаннямі Ціта ля Зацітавай Слабады.

Слабада, як вядома з гісторыі, тып пасялення ў феадальнай Беларусі ў XI—XVIII стагоддзях, што карыстаўся свабодай — часовым вызваленнем ад уплаты падаткаў ці іншых павіннасцей. На тэрыторыі Беларусі вядома каля 200 тапонімаў (назваў) з гэтым словам. У нашым раёне ёсць Пудзіцкая Слабада, Скрыльская, Слабодка за Талькай".

Пра іншыя Слабоды... ПУДЗІЦКАЯ — у Ананіцкім сельсавеце. За паўтара дзесятка кіламетраў на поўнач ад Мар'інай Горкі. У сакавіку 1907 года тут, у Пудзіцкай Слабадзе, успыхнула сялянскае хваляванне. 1 верасня 1917 года ў Пудзіцкай Слабадзе адбылося яшчэ адно аграрнае выступленне, якое выявілася ў самавольным захопе і касьбе канюшыны і сенажаці сялянамі тутэйшага памешчыка. У хваляванні ўдзельнічалі таксама сяляне суседніх вёсак Баеўка і Шкавілаўка.

СКРЫЛЬСКАЯ СЛАБАДА — вёска ў Навасёлкаўскім сельсавеце. За 10 кіламетраў ад Мар'інай Горкі. У сярэдзіне XIX стагоддзя пабудавана ў вёсцы драўляная праваслаўная царква Іаана Прадцечы. Захавалася да сённяшніх дзён.

СЛАБАДА З ВЕЦЯРЭВІЦКАГА СЕЛЬСАВЕТА. На пачатку стагоддзя ўваходзіла ў Шацкую воласць.

Што ж да гісторыі самой ЗАЦІТВАЙ СЛАБАДЫ, то кандыдат гістарычных навук Ганна Дулеба сведчыць наконт гэтага наступнае: "На пачатку 20 стагоддзя пасяленне было вядома як вёска Слабада — Зацітаўская Пухавіцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні, у якой было на той час 87 двароў, 528 жыхароў. Паводле перапісу 1917 года, таксама вёска Слабада — Зацітаўская той жа воласці, 104 двары, 531 жыхар (усе беларусы). У 1919 годзе тут створана савецкая школа першай ступені, у якой у 1922 годзе 2 настаўнікі вучылі каля 70 хлопчыкаў і дзяўчынак. На пачатку 1930-х гадоў праведзена калектывізацыя, створаны калгасы "Пуцілавец" і "Кастрычнік", працавалі 2 кузні, ваўначоска..." Сёння Зацітава Слабада — цэнтральная сядзіба калгаса з іншай назвай, калгаса імя В. І. Чапаева. Між іншым, зараз у складзе калгаса ўжо не толькі Зацітава Слабада, а яшчэ і Падбярэжжа, Балачанка, Маркаўшчызна, Раўчак, Баравая, Наваполле, Машчонава, Восава. Былі яшчэ "чапаеўскімі" Беразянка ды Грабаўё. Ды ўсё. Забраў час, забралі многія калізіі гэтыя дзве вёскі ў нябыццё. Толькі ў нашай памяці, пры ўмове ведання, могуць яны, Грабаўё, Беразянка, застацца.

Але вернемся ў далёкія 1930-я гады. Калектывізацыя, як расказвалі людзі сталага веку, праходзіла як быццам у два этапы. Спярша людзей загналі ў "Пуцілавец" ледзьве не пад ружжом. Чым толькі ні страшылі. І раскулачванне было, і пагрозы многія. Партыя прыслала старшынёю "дваццаціпяцітысячніка" Генадзя Бембянюка. Руплівага камуніста таксама страшылі. Нават стралялі ў яго пасля чарговага сходу. Паранілі. Выжыў старшыня. Пасля сталінскага артыкула ў "Правде" пра "перагібы" людзі пацягнуліся назад. Забралі коней, кароў, плугі і бароны... Ды ненадоўга. Зрушылася ўжо нешта і ў псіхалогіі сялянскай, і на ўласным падворку, у аднаасобніцкім гаспадаранні, на зямлі. Паціху пачаў мяняцца час, настрой жыцця пачаў мяняцца. Доўгі час старыя слабадчане памяталі, трымалі ў памяці выраз аднаго дзеда (сцерліся і ў маёй памяці яго імя, яго прозвішча — мо Талаш яго звалі, мо Мельнік яго прозвішча?): "Ат, няма парадку ніякага, сабатня, словам..." Сапраўды, мяняліся ўстоі, мяняўся лад жыцця ў вёсцы, паселішчы, дзе традыцыйна ўсё было адладжана, духоўна і матэрыяльна раздзелена, дакладна вызначана.

Вось і вёска традыцыйна дзялілася на "канцы"... Разувалаўка, непасрэдна Слабада, Міршчына і Прытыка. За блізкім яшчэ часам была ў гэтых назвах і свая, зразумелая ўсім вобразнасць. Часта ў дыялогах можна было пачуць: "Жыве на Прытыцы", "прытыцкая дзяўчына", "перасяліўся на Міршчыну", "Волька з Разувалаўкі", "слабодскія хлопцы"... Зараз сёе-тое губляецца, знікае бясследна.

Разувалаўка. З яе цяпер пачынаецца вёска. Бальшак ідзе праз рэчку, па грэблі прыводзіць да першых хат, да могілак. Налева пойдзеш — уся вёска наперадзе. А справа нямногія хаціны Разувалаўкі, дзе калісьці стаяла і панская сядзіба. Ды чаму ўсё ж Разувалаўка? Па настроях — гэта ці не самы "агрэсіўны" канец Зацітавай Слабады. Таму, відаць, і назва гэткая, што цёмнай ноччу хлопцы разувалі сваіх вяскоўцаў. А некалі ж абутак (амаль што як зараз!) быў самай дарагой рэччу.

Слабада. Старыя адсюль толькі сябе і лічаць слабадскімі. Цэнтр, аснова. Тут і зроблена спроба адводзіць ад цэнтральнай дарогі ўбок да рэчкі ці да поля нешырокія вулачкі. Па ўсім відаць, што са Слабады сапраўды пачыналася селішча. З кім са слабадскіх ні загаворыш пра ягоную сядзібу, адразу ўспамінаюць, што некалі на гэтым падворку стаяла хата дзеда, прадзеда, а то і прапрадзеда.

Далей, за вясковым клубам, — Міршчына. Згодна з паданнем, там асталёўваліся перасяленцы з Міра. Хоць, мажліва, тут сяліліся проста з "міру" — што азначае, аднекуль здалёк. Што ж гнала іх у новую старонку? Кажуць, наезджыя былі ўсе як адзін стараверы.

Прытыка. Ужо на завяршэнні Міршчыны пачынаецца своеасаблівая планіроўка: вельмі шырокая вуліца, хаты ў асноўным па правы бок, а левы, некалі ўвесь літаральна свабодны, заняты выганам, забудовамі ў апошнія дзесяцігоддзі. Нарадзілася Прытыка пасля слабадской бяды. Некалі хаты ў цэнтральнай частцы вёскі збіліся вельмі цесна. Здарыўся пажар і шмат будынін вынішчыў. У далейшым, каб не цясніцца, пачалі будавацца за Міршчынай. Прыткнуліся да яе. Жыве, расце вёска і зараз. На змену драўляным хатам выстройваюцца цагляныя. І новая вуліца з'явілася. Вось толькі якою назвай яна ўвойдзе ў гісторыю?

Да трапна вымераных Разувалаўкі, Слабады, Міршчыны і Прытыкі можна дадаць велізарную процьму мікратапонімаў. Вучоныя, між іншым, сцвярджаюць, што ў межах, у прасторы аднаго вясковага паселішча бытуе каля 150—200 мікратапонімаў. Колькі ж мікратапанімічных таямніц прыхавана ў Зацітавай Слабадзе? Згадаем хаця б некаторыя, занатуем тое, што наступнікі ўжо могуць і не ведаць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**(Працяг будзе).**

## ЛІСТЫ МАКСІМА ТАНКА ДА МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

# «НІЗКІ ПАКЛОН ТВАІМ ПЕСНЯМ...»

Дарагі Міхале!

Хіба няма такой індульгенцыі, якая адпусціла мне грахі за тое, што так доўга не адказваў на Тваё пісьмо. Былі розныя прычыны, якія бываюць у бюракратаў і ў людзей, перагружаных рознымі патрэбнымі і пустымі справамі, а да ўсяго гэтага — хвароба. Толькі гэтымі днямі вярнуўся з санаторыя "Конча-Заспа" з Украіны. Але і там не ўдалося мне спакойна падлячыцца, бо ўключаны быў у склад дэлегацыі на святкаванне 50-годдзя Савецкай Украіны, якое прайшло надзвычай гучна, ярка, у атмасферы запарожскай гасціннасці і размаху. Аж цяпер, здаецца, шуміць у галаве і ў вачах палыхае мора агнёў на Крашчаціку. Праз год гэта чакае і нас. Пачынаем ужо рыхтавацца. Толькі што сазваніўся з Рыгорам Раманавічам, які перасылае Табе свае найлепшыя навагоднія пажаданні і прывітанні.

Наконт пласцінак з Тваімі песнямі робяцца ўсе магчымыя захады, каб іх хутчэй маглі заказаць і атрымаць. З пласцінак, якія былі ў нас, зроблены запісы на магнітафонную стужку, каб у адпаведных дырэктыўных інстанцыях маглі пазнаёміцца з Тваімі песнямі. Спадзяёмся, што ўдасца пераламаць гэты "бар'ер маўчання", які аказаўся больш цяжкім, як гукавы — для рэактыўных машын. У "Літаратуры і мастацтве" быў харошы нарыс С. Грахоўскага пра яго сустрэчу з Табою. Я аж пазайздросціў Вашай супольнай вандроўцы па Златай Празе. Прыгадаў і нашу апошнюю сустрэчу: тваю келію, запоўненую кнігамі і нотамі, з якіх чуецца музыка; сцены, у якіх гучыць Твой голас, і нават сходы, як нейкія жывыя клавішы.

У нас зараз — зіма. Беларуская. То адліга, то мароз, то завея... З "Полымем" і мне было шкада развітвацца. Агулам, пераход на работу у Саюз пісьменнікаў, пры сучасным стане свайго здароўя, лічу недаравальнай памылкай. Да ўсяго гэтага, зараз не маю калі і пісаць. Нават не меў часу да канца расшыфраваць свае дзённікі. Шмат яшчэ засталося ў рукапісах. Можа, на працягу гэтага года прывяду ў нейкі лад разрозненыя свае "Лісткі календара". Дужа рад, што яны Табе спадабаліся. У верасні быў у Канадзе на беларускіх днях выстаўкі. Надзвычай былі цікавыя сустрэчы з землякамі, цікавыя выступленні нашых артыстаў, якіх горача сустракалі канадскія беларусы. Сардэчныя Табе прывітанні ад усяго майго калгаса, ад шматлікіх Тваіх сяброў-мінчан. Хоць Новы год ужо настаў, але ўздымаю чарку (хоць з валяр'янаўкай) за Тваё здароўе і шчасце, за тое, каб новы год быў шчодрым на хлеб і віно, на сонечныя дні і песні, на незабыўныя сустрэчы сяброў.

Моцна Цябе, Міхале, абдымаю. З надзеяй на сустрэчу з Тваімі песнямі і з Табой

**Максім ТАНК.**

Мінск, 3/1, 67 г.

Дарагі Міхале! Спазненне стала другой маёй, пасля сэрца, хваробай. Таму прашу даравацъ за мой позні адказ. Гаварыў я з некаторымі людзьмі аб той справе, якую Ты закрануў у сваім пісьме, але яшчэ не знаю, які будзе вынік. А справа — важная, каб толькі ўдалося яе ажыццявіць. Палохае мяне Твой мінорны настрой, які прарываецца паміж радкоў Твайго пісьма. Як са здароўем? Янка Брыль казаў, што атрымаў Тваё пісьмо. Зараз "Полымя" будзем Табе пасылаць праз Саюз пісьменнікаў. Часопіс стаў больш салідны. Ты, здаецца, першы нумар ужо атрымаў. Зрабіў я недаравальнае глупства, што развітаўся з часопісам і пайшоў на работу ў сакратарыят нашага Саюза пісьменнікаў. Зараз капаюся ў розных канфліктах і непатрэбных нікому справах, закінуўшы сваю творчасць. Праўду казала народная мудрасць: век вучышся... А гэты год і наступны такія ўраджайныя на юбілейныя даты, што баюся, каб не ўдвоілася ў нас колькасць ... (неразб.). Дарагі Міхале, шчырае прывітанне Табе ад усіх нас, нізкі паклон Тваім песням, шмат сонца Твайму невялічкаму пакойчыку — гнязду, з якога яны разлятаюцца выраем па свету.

Моцна Цябе абдымаю. Жадаю шмат здароўя, здароўя, здароўя.

**Максім ТАНК.**

Мінск, 18/V, 67 г.

Барвіха, 13/IV. 70 г.

Дарагі Міхале! Дзякую за памяць і за пісьмо, якое мне дамашнія прыслалі ў санаторый. Пасля грыпа (праляжаў у Мінску больш шасці тыдняў) усё яшчэ не магу ачухацца: галавакружэнні, розныя спазмы, арытмія. Не знаю, калі змагу зноў вярнуцца да нармальнага стану. Апошнія гады да таго былі перагружаны рознымі падзеямі, мерапрыемствамі, пасяджэннямі, якім і канца не відаць і якія дапамаглі развіцца маёй хваробе. На "Барвіху" не пішы, бо хутка яе пакіну. Калі крыху падужэю, трэба будзе рыхтавацца да пленумаў, чарговых з'ездаў, сесій, сімпозіумаў... Бяда — няма калі пісаць. Як чэхаўскаму вясельнаму генералу, трэба ўсюды прысутнічаць. Бачу, што і ў Цябе, дружа, са здароўем справы абстаяць не лепш. Другі інфаркт — другі трывожны званок. Праўда, я помню старога праф. Здэнэка Неедлага (Ты яго, напэўна, знаў), той усіх нас падбадзёрваў, што ён на сваім вяку перажыў іх шмат. Самае радаснае для ўсіх нас, што Ты з такім поспехам нясеш людзям свой бясцэнны дар — песні і што яны выклікаюць жывы адгалосак у сэрцах людзей. Пісьмо, аб якім успамінаеш, відаць, недзе згубілася — як гэта часта бывае — у дарозе. Хутка павінны выйсці на беларускай мове мае "Лісткі з календара". Яны будуць больш поўнымі, як тыя, што друкаваліся ў часопісе "Полымя". Прышлю Табе іх, бо там шмат гаворыцца аб годах нашай чыннай і хмарнай маладосці. Ад усяго сэрца жадаю Табе здароўя, здароўя і яшчэ раз — здароўя.

З веснавым прывітаннем

**Максім ТАНК.**

Мінск, 13/X, 72.

Дарагі Міхале! Прашу, не асуджай мяне, грэшнага, што так доўга не адказваў на Тваё пісьмо і юбілейныя добрыя пажаданні, якія атрымаў ад Цябе і за якія сардэчна і горача Табе дзякую. Гэты багаты юбілейнымі датамі год, відаць, зусім мяне выбіць са строю. Кручуся як вавёрка ў калясе. Гэтымі днямі вярнуўся з чарговай камандзіроўкі з Арменіі зусім разбіты хваробамі. Ледзь паднялі мяне там уколамі, а зараз дома пагражаюць дактары ўзяць мяне ў бальніцу, хоць так не хочацца трапляць у гэтую сумную ўстанову. Дужа ўсіх нас радуе, што Ты так гераічна і творча працуеш на ніве роднай песні. Дай Табе, божа, і далей здароўя, здароўя і здароўя. Добра было б, каб Ты прыслаў праз каго сваю пласцінку, бо людзей, якія хацелі б Цябе паслухаць, — безліч. Хутка выйдзе мой новы зборнік вершаў "Хай будзе святло". Прышлю яго Табе. Сардэчныя Табе прывітанні ад усёй маёй сям'і, ад нашых супольных знаёмых. Моцна Цябе абдымаю. З надзеяй, што яшчэ ўдасца нам сустрэцца. Так бы хацелася паслухаць Тваю песню!

**Максім ТАНК.**

Мінск, 7/V, 74 г.

Дарагі Міхале! Віншую Цябе з усімі майскімі святамі і шчыра дзякую за Тваё пісьмо, якое прынесла хоць невялічкую жменьку звестак пра Цябе. Горш за ўсё, што пагаршаецца Тваё здароўе, бо яно — аснова асноў усёй нашай працы і жыцця. Можа, Табе патрэбныя якія лякарствы? Я пастараўся б іх дастаць ці ў Мінску, ці ў Маскве. Пішы. Праўда, я і сам не асабліва веру ў іх. Столькі я іх перапіў, пераеў, што і конь не павёз бы. Зараз перайшоў на травы, хоць слабая надзея і на іх. Добра толькі, што яны менш таксічныя і не такія шкадлівыя, як усе хімічныя прэпараты. У мяне ўсё ўскладняецца яшчэ і тым, што ўсе мае дні і ночы перагружаны рознымі справамі, ад якіх і ратунку няма і якім не відаць канца. Над вершамі працую, калі ляжу хворы. Вось і зараз падрыхтаваў новую падборку, якая, хіба, будзе надрукавана ў часопісе "Полымя" ў 8 ці 9 нумары гэтага года. Буду рады, калі знойдзеш там колькі вартых вершаў. Вось адзін з іх:

**Гэта — агонь. Гэта — вада.**
**З імі не знайся. Асцерагайся.**
**Гэта — любоў. Гэта — бяда.**
**Іх абысці стараной пастарайся...**
**Хутка закончу дарогу сваю**
**Праз перавалы, адхоны, абрывы.**
**Зараз настаўнікі не пазнаюць:**
**Такі я паранены ўвесь і... шчаслівы.**

Нейкая дурная была ў нас зіма, ды і вясна даецца ў знакі. Толькі ўчора прайшоў дождж, і зямля і дрэвы зазелянелі. Гэтымі днямі быў на сваёй Нарачы. Прыгожа там. Шкадую, што не ўдалося, калі быў Ты ў Мінску, пабачыць гэты цудоўны куток нашай Радзімы. Пра літаратурныя навіны Табе не пішу, бо, з большага, Ты з імі знаёмы па часопісе "Полымя". Рад, што Табе спадабаліся некаторыя творы нашых празаікаў. З Я. Івашкевічам я знаёмы. Сустракаўся з ім і ў Варшаве, і ў Маскве на розных з'ездах і канферэнцыях. Бясспрэчна, гэта — адзін з найбольш выдатных пісьменнікаў свету, чалавек універсальных ведаў і культуры. Вечар Шаўчэнкі, напэўна, трансліраваўся. Шкада, што мы яго прапусцілі і не змаглі пачуць Цябе. Праўда, маем з Тваімі песнямі пласцінкі, якія часта праігрываем. Гэтыя гады багатыя рознымі юбілейнымі датамі. Хутка будзем адзначаць 30-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У чэрвені — выбары ў Вярхоўны Савет СССР, а там — нарады, пленумы, дэкады... Не знаю нат, калі змагу паехаць на адпачынак на сваю Нарач. Сардэчныя Табе прывітанні ад Тваіх сяброў-мінчан, ад усёй маёй сям'і. Усе жадаем Табе здароўя, шчасця, а цудоўным Тваім песням — светлых дарог у свет, да сяброў. Моцна Цябе абдымаю. Твой

**Максім ТАНК.**

---

**Працяг.**
**Пачатак у №52 за 1997 год,**
**№№ 1—4 за 1998 год.**

# УШАНАВАННЕ МАЙСТРА

Вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага ўкраінскага паэта Уладзіміра Сасюры, прайшла ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Выступоўцы адзначалі адметнасць, грамадзянскасць творчасці Майстра, "неудобоваримость" яго для тагачасных уладаў. Некаторыя вершы і паэмы сталі даступнымі чытачу толькі пасля смерці аўтара, і то не ўсе.

Любіў паэт Беларусь, блізка знаўся з многімі нашымі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Дубоўкам. Хораша пра іх гаворыць ён у паэме "Расстралянае бяссмерце". "Сасюра не раз прыязджаў сюды, — паведаміў Вячаслаў Рагойша. — Яму належыць мілае вызначэнне Беларусі як "сінявокай сястры Украіны". Калісьці М. Зарэцкі заўважыў: "Гэта — беларуска-ўкраінская прыказка". Думку В. Рагойшы пацвердзіў Сяргей Грахоўскі. Як вядома, у 1936 годзе ў Мінску праходзіў пленум пісьменнікаў СССР. На ім ад Украіны прысутнічаў У. Сасюра. Малады Грахоўскі, работнік радыё, павінен быў асвятляць гэту падзею. А вяшчанне тады вялося прама ў эфір. Вось украінскі госць і сказаў у мікрафон: "Здравствуй, здравствуй, моя Беларусь, синеокая сестра Украины!" Сяргей Іванавіч і раней сустракаўся з вялікім паэтам, ездзіў у 1965 годзе на яго пахаванне. "Народ ішоў і ішоў..." — успамінаў прамоўца.

Былі гады знішчэння Сасюры, цкавання яго. А ўсё пачалося з верша "Любіце Украіну!" У ім паэт выказаў сыноўскую любоў, адданасць роднай зямлі, сваім людзям.

"Я чуў і чытаў некаторыя вершы Сасюры, — пачаў гаворку Мікола Аўрамчык. — Пазней, калі паступіў у БДУ, у дзяржаўнай, па тым часе Ленінскай бібліятэцы, знайшоў кнігі ўкраінскіх паэтаў і захапіўся імі, асабліва Сасюравымі..." Прамоўца прызнаўся: "Калі ёсць у маёй творчасці паэтычная іскра, дык яна — ад Труса, Ясеніна і Сасюры".

Словы шчырага прызнання вялікаму ўкраінскаму прадстаўніку прыгожага пісьменства выказаў галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў. Ён прачытаў і ўрывак з памянёнай ужо вышэй паэмы ў сваім перакладзе.

На вечарыне гучалі творы юбіляра ў арыгінале і па-беларуску, песні ў выкананні хору ўкраінскай народнай песні Беларускага цэнтра нацыянальных культур.

Мякка, задушэўна вечарыну вёў паэт Васіль Жуковіч.

**Алесь МАЛЕВІЧ.**

---

**Уладзімір САСЮРА**

## ЛЮБІЦЕ ЎКРАІНУ

**Любіце Ўкраіну, як сонца святло,**
**як вецер, і травы, і воды...**
**Любіце у шчасці ўсім злыдням на зло,**
**любіце ў часіну нягоды.**

**Любіце Ўкраіну наяве і ў сне,**
**вішнёвую нашу Ўкраіну,**
**у вечнай і новай красе, у вясне,**
**у мове яе салаўінай.**

**Між братніх народаў, бы ў садзе жывым,**
**яна — у вяках з добрым імем.**
**Любіце Ўкраіну ўсім сэрцам сваім**
**і справамі ўсімі сваімі.**

**Адзіная ў свеце яна нам, адна**
**ў салодкіх прасторавых чарах...**
**У зорках яна, і ў вярбінах яна,**
**у сэрца кажнюткім удары,**

**у кветцы, у пташцы, ў электраагнях,**
**у песні крылатай, у думе,**
**ў дзіцячай усмешцы, ў дзявочых вачах**
**і ў сцягу узрушаным шуме.**

**Як дзень, як святая світання пара,**
**яна і ў шляхах, і ў дубровах,**
**у клічы гудкоў, і у хвалях Дняпра,**
**і ў воблаках тых пурпуровых,**

**і ў громе гармат, што развеялі ў прах**
**прыблуд у зялёных мундзірах,**
**ў штыках, што прабілі у цемры нам шлях**
**да вёсен і светлых, і шчырых.**

**Юнача! Твой смех для яе хай звініць,**
**ты й слёз не хавай ад краіны...**
**Не зможаш народы планеты любіць,**
**не любіш калі Украіны!**

**Дзяўчына! З ёй мару табе калыхаць,**
**любі яе кожнай хвілінай.**
**Каханы цябе не захоча кахаць,**
**не любіш калі Украіны.**

**Як песню, якую душою пяюць,**
**як неба, што ззяе зарою,**
**ўсім сэрцам любіце Ўкраіну сваю —**
**і вечныя будзем мы з ёю!**

**1944.**

## УСТУП ДА ПАЭМЫ «МАЗЕПА»

**Наўкола радасці так мала...**
**Які у чорта спраў прастор,**
**Калі мы крылы паламалі**
**У лёце прывідным да зор!**

**І гневу, і пакутаў мора**
**Я вылью з сэрца ў час журбы,**
**Калі ідуць лакеі ўгору**
**Й маўчаць рабы.**

**У пустаслоўі патакаеш.**
**Хто ўчынкам ходу не даваў!!**
**Лепш галаву разбі аб камень,**
**Мая Ўкраіна-удава!**

**У шматгадовай крутаверці**
**Здзівіць не ў стане плёнам свет.**
**Не ўмела жыць, дык хоць памерці**
**Сумей як след.**

**Хадою гнеўнаю блукаю**
**Чужынцам на радзіме я,**
**Пажарам вочы засціла**
**Мне ўсё трагедыя твая.**

**Нямой, адуранай, забытай,**
**Няўжо не ўстаць табе ад ран!**
**Маскве і Рэчы Паспалітай**
**Цябе шпурнуў калісь Багдан.**

**Пасля хацеў табе Мазепа**
**Ад сэрца шчырага дабра —**
**Яму ж ты здрадзіла і стэпам**
**Пайшла ў рабыні да Пятра.**

**Хіба ж не жах! — уласнай зброі**
**У смутныя не маеш дні.**
**Так у цябе: два-тры героі,**
**А рэшта — ёлупні ўсё, пні;**

**А рэшта — безгалоўе здольных**
**Блакітам багну уявіць.**
**О, каб я мог, о, каб я здолеў**
**Цябе, Ўкраіна, ажывіць!**

**Твае шляхі — адчай і камень.**
**Прыўкрасная, ды, як на грэх,**
**Зямлю ты плодзіш байструкамі —**
**Камусь для гною і на смех.**

**У галаве тваёй — макуха!**
**Хіба ж ты можаш жыць сама,**
**Расійска-польская ты шлюха,**
**Маларасійская турма!**

**З табой, шалёная, загіну,**
**Вядзі ж на страшную мяжу.**
**Ах, я люблю цябе, Ўкраіна,**
**І сам не знаю, што кажу!**

**Я ж сын твой, што цяжкой дарогай**
**На бой і смерць ішоў не раз,**
**Той, хто пакінуў неба й Бога,**
**Абы прыйшоў твой зорны час.**

**Ішоў крывавымі жытамі**
**І зноў пайду, дзе гул, імгла.**
**Што зычыць сын адзінай маме!**
**Каб толькі шчаснаю была...**

**1928.**

Пераклад з украінскай
Васіля ЖУКОВІЧА.

*ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА*

# ЖЫЦЬ НА ВЫСПЕ

Цяжка жыць на выспе: ні з сяброўкамі пагаманіць, ні збегаць куды, каб павесяліцца...

Лёгка жыць на выспе: ніхто ў душу не лезе — не бурыць той свет, які пабудаваў для сябе, які шануеш і які памагае жыць...

Ды так хочацца іншы раз трапіць у вялікі свет — у той, які завецца Радзімай — роднай старонкай — Беларуссю, каб высветліць, ці не ачмурэў ты яшчэ на сваёй Выспе, жывучы толькі тым, што ў ёй і што вакол яе...

А Свет — Вялікі і Неабсяжны, — гэта не толькі твая Выспа — не толькі твой унутраны свет, трошкі большы за саму выспу, — гэта яшчэ і тое, што прыходзіць да цябе, калі вандруеш, калі ўзбагачаеш сябе новымі ўражаннямі, новымі знаёмствамі...

Міраслава Лукша гэтак і робіць: час ад часу наязджае з Беласточчыны — сваёй Выспы, да якой яна прыкіпела і душой, і сэрцам, у стольны Мінск і прывозіць з сабою кветкі — кветкі, якія растуць толькі на Выспе — **на яе Выспе!** — прывозіць танюткія кніжкі паэзіі або прозы — кветкі, народжаныя водарам Выспы, яе сонцам, яе паветрам...

Прывозіць, каб і ў тлумным, нашпігаваным людзьмі і спакусамі цывілізацыі і амаль што "еўрапейскім" горадзе таксама ведалі, ці лёгка жывецца на выспе...

І ці доўга можна на ёй жыць... Або існаваць...

Міра Лукша якраз і спрабуе адказаць на гэтае пытанне: жыццё на Выспе — на маленечкім кавалачку Беларусі — у атачэнні хоць і блізкіх братоў-славянаў, ды ўсё ж не беларусаў — амаль як у замежжы — гэта жыццё ці існаванне?

Каб атрымаць адказ на гэта пытанне, лепей за ўсё паслухаць герояў тых апавяданняў, што змешчаны ў невялікай, але ёмістай па зместу і сэнсу кніжцы М. Лукшы "Выспа". Лёс герояў, іхнія ўчынкі і выказванні якраз і будуць тым адказам, якога мы прагнем.

Адразу хочацца зазначыць: асаблівай радасці — якую дае нечаканае, але прыемнае знаёмства, — вас не чакае. І не таму, што героі — спрэс благія людзі, і — зразумела — не таму, што яны не выклікаюць нашых чытацкіх сімпатый. Наадварот, гэтых сімпатый болей, чым зашмат.

Але ўся складанасць знаёмства менавіта ў тым, што сімпатыям нашым — як і самім героям — няма куды дзецца: сімпатыі, як і героі, змушаны круціцца вакол саміх сябе — сімпатыі вакол сімпатый, героі — вакол таго жыцця, якое ў іх ёсць, — вакол сваёй Выспы, — вакол таго месца, дзе і чым яны жывуць.

Дык што гэта, на вашу думку: жыццё ці існаванне? Героі лічаць, што жыццё, хоць яно і не надта салодкае...

Але чытач не можа — ды й не хоча! — прымаць іхнія меркаванні як прыклад, як узор для перайманння: ён ведае, што ёсць і іншае жыццё, пра якое герої апавяданняў таксама чулі, а той-сёй нават паспытаў яго... Але ж яно, чужое і прыгожае, — яно ж не іхняе — бо не зрабілася неад'емнай часткай іхняга жыцця — той часткай, без якой сапраўды нельга жыць... А не зрабілася таму, што Выспа... так-так! Выспа! — яна не адпускае іх — трымае ля сябе мацней, чым ланцуг, — не дазваляючы вырвацца за яе межы, — а тых, хто неяк чынам вырваўся, амаль заўсёды вяртае назад, да сябе, — бо як не верне, то перастане існаваць сама — як Выспа, як з'ява, як пэўная рэчаіснасць... А якраз гэтага яна і не можа сабе дазволіць... І во гэтак — навечна звязаныя адной ніткай — яны і існуюць, жывячы адно аднаго: Выспа — людзей, якія на ёй жывуць, а людзі — Выспу...

Як гэта падобна на Піцер! — прыгожы, чароўны, загадкавы, які, як цмок, выпівае з цябе ўсё, што яму патрэбна — талент, здольнасці, нават (не фігуральна!) жыццё, — і пакідае табе толькі тое, чым ужо не можа пакарыстацца — бязвольную ці спустошаную абалонку ад некалі дужага цела, або — калі чалавек мацнейшы за цмока, — то славу, вядомасць, прызнанне, водбліск якіх падае і на цмока, і ён таксама купаецца ў славе, і ў любым выпадку, як мы бачым, мае карысць з той істоты, якая завецца чалавекам...

Выспа — не гэткі страшны смок, як Піцер, але робіць з чалавекам амаль тое самае: прымушае яго запаўняць сваім існаваннем спусцелыя соты — маленечкія акенцы ў казачна-рэкламным праспекце пра Выспу, створаным ёю не для кагосьці, а для самой сябе.

І людзі — героі апавяданняў М. Лукшы — даволі востра адчуваюць гэтыя сузадносіны (хто цалкам інтуітыўна, хто на больш-менш свядомым узроўні), і якраз гэта адчуванне і не дазваляе ім спазнаць радасць у той ступені, як яе спазнаюць сапраўды шчаслівыя людзі — хаця паспрабуй знайдзі іх у цяперашні час!

І таму тое, што яны называюць жыццём, напэўна мае іншую назву: усё залежыць ад таго, з якога боку і з якіх пазіцый падзіраць на гэтую з'яву, на гэта — назавем усё ж! — жыццё-існаванне...

Справа, аднак, не гэтулькі ў назве, колькі ў самой Міраславе, бо ў яе асобе мы маем вельмі тонкі, вельмі дакладны і амаль беспамылковы па гучанню інструмент для адлюстравання гэтага жыцця, інструмент, здольны выявіць амаль няўлоўныя хвалі суадносін Выспы і яе жыхароў, і не толькі выявіць, але і сфармуляваць у слове.

Ці лёгка, жывучы на Выспе, пісаць пра тых, каго добра ведаеш, і хто, бясспрэчна, цябе таксама добра ведае? Ледзь толькі заікнія — адразу перакажуць, ледзь дадай штосьці ад сябе — каб прыгажэй было! — і крыўды не пазбегнуць: не пажадае чалавек насіць на грудзях чужую бляшанку — будзе насіць сваю, якую сам змайстраваў і якой ганарыцца. Бо калі няма гонару — хай і гэткага, местачковага, — то няма і чалавека, няма асобы.

Што застаецца аўтару? Адзінае выйсце ў гэтым выпадку — пісаць толькі праўду, нічога апроч праўды.

І Міраслава Лукша (ужо не істотна, інтуітыўна ці не) знаходзіць для сваёй прозы адзіна правільную танальнасць: выключны дакументалізм. Нівводнага слова ад сябе!

Ці губляе гэткая проза — праз вымушаную дакументальнасць — свае мастацкія вартасці? Застаючыся спрэс дакументальнай, проза М. Лукшы прарываецца нечакана да вяршыняў сапраўднай мастацкай прозы, што міжволі дзівішся, як гэта адбылося.

Разгадка, як ні дзіўна, простая: Міраслава Лукша, нават калі піша прозу, усё роўна застаецца тым, хто яна ёсць — Паэтам. Бо па складу свайго мыслення, па ўспрыманню навакольнага свету — яна перш за ўсё Паэт! Якраз гэта і тлумачыць нам, чаму мы, сутыкаючыся з яе дакументальнай прозай, адчуваем гэты дакументалізм мо толькі ў самым пачатку, а потым, учытаўшыся, амаль не заўважаем яго. Вонкавая парадаксальнасць прыёму, ужытага аўтарам, заключаецца ў тым, што М. Лукша, нідзе не дазваляючы сабе паэтычных вольнасцяў — сказаць пра сваіх герояў як мага прыгажэй, — сваім паэтычным бачаннем свету так асвятляе мо нават і не самыя паэтычныя моманты жыцця сваіх герояў, што яны з канкрэтных асобаў ператвараюцца ў вобразы — не прыгожанькія, не сусальныя, як на каляндных паштоўках, — а сапраўды паэтычныя, бо Паэзія — гэта не ёсць прыгожае слова. Паэзія — гэта тое, што вакол гэтага слова, ягоная аўра.

І прыкладам гэтаму — найбольш шчымлівае, найбольш паэтычнае апавяданне зборніка — "Спрот, народжаны ў верасьні" (хаця пра паэзію, як такую, у гэтым апавяданні ні слоўца!).

Але феномен Міраславы Лукшы на гэтым не канчаецца: самым, здавалася б, невеагодным, аднак і самым каштоўным з'яўляецца тое, што паэзію гэту ствараем, аказваецца, мы самі, чытачы, — менавіта тым, што закладзена ў нашай душы, схавана якраз у тых яе куточках, куды мы не так часта і зазіраем, — а Міраслава Лукша адно лёгенька і асцярожна падштурхвае, накіроўвае і запрашае нас: хадзіце сюды, людцы, зірніце, якая прыгажосць побач з намі і сярод нас!

І тады пачынаеш дзякаваць — не толькі Міраславе, але і самому сабе, што не адмовіўся ад такога запрашэння, згадзіўся з ім, і праз тое маеш кавалачак святла ў душы, кавалачак радасці ад таго, што не ўсё яшчэ памерла ў людзях і ў табе самім таксама.

З гэткім адчуваннем падзякі — але ўжо аўтару — чытаецца ўся кніжка. Ды толькі, дачытаўшы яе да канца, у поўнай меры пачынаеш усведамляць, з якой павагаю, з якой асцярожлівасцю, з якой спагадай і тактоўнасцю ставілася (і ставіцца, бо іначай не можа, не ўмее і нават не ўяўляе сабе іншага стаўлення!) Міраслава Лукша да тых, хто жыве побач з ёю — да прататыпаў сваіх герояў, знаходзячы ў іхніх магчыма і "непаэтычных" паводзінах і ўчынках безліч паэзіі. А знаходзіць толькі таму, што гэта Паэзія жыве ў душы самой Паэткі. І толькі, добра ўсвядоміўшы гэты факт, мы зразумеем нарэшце, якое невычэрпнае радовішча Паэзіі павінна месціцца ў душы аўтара, каб яго залежаў не толькі хапіла на ўсіх, хто трапляе на вока даследчыку (а Міраслава Лукша якраз і выступае тут у ролі даследчыка), але каб і для сябе трошкі засталося — каб было чым дыхаць самой. Бо — як ужо было сказана — Міраслава Лукша — найперш Паэт.

Весці гаворку пра паэзію яшчэ больш няўдзячная справа, чым разважаць пра прозу. Усе даўно прызвычаіліся, што амаль усё, што напісана не ў слупок, лічыцца прозаю, і даказаць адваротнае іншы раз немагчыма нават самаму таленавітаму крытыку ці даследчыку. А ў "паэтычнай дзяржаве" ўсё быццам бы прасцей: Паэзія альбо ёсць, альбо яе няма... Хаця тое ж самае — калі шчыра — можна сказаць і пра Прозу.

Не будзем удавацца ў спрэчкі, так гэта ці не так, а проста параўнаем паэзію Міраславы Лукшы з яе прозаю. І адразу ўбачым розніцу. Калі ў прозе М. Лукша імкнецца да абагульненняў — так бы мовіць, жадае надзець абруч азначэння на любую з'яву, якая яе цікавіць, — то ў паэзіі яна імкнецца, здавалася б, да процілеглага: не абагульняе, а раздрабняе з'яву, жадаючы разглядзець ледзь прыкметны, а то і зусім незаўважны ўзор на тым абручы (які яна, дарэчы, не скідае, яна яго захоўвае, але амаль не падкрэслівае яго наяўнасць на той ці іншай рэчы, з'яве), — прыкмячае ледзь заўважную шчарбінку ці даўні дотык кавальскага малатка да гэтага абруча — рэчы таксама маюць памяць, — і Міраслава Лукша аднаўляе для нас — ці мо лепей — ачалавечвае для нас памяць рэчаў.

І хаця

> **"рэч жыве**
> **ў сваёй вечнасці,**
> **а не ў тваім слове",**

менавіта пасля такога незвычайнага — праз слова — дотыку рэчаў да чалавечай душы, здольнай разумець і адчуваць рэчы, — яны робяцца жывымі асобамі, з якімі можна пагутарыць, паразважаць. Рэчы ператвараюцца ў нашых суразмоўнікаў, дарадцаў і памагаюць нам, людзям, будаваць свой унутраны свет, сваю Выспу, — без якой немагчыма нікому:

> **"размаўляй**
> **з цацкамі**
> **яны табе вераць",**

асабліва тады, калі

> **"неба мікра-блакітнае**
> **неба макра-блакітнае..."**

Вось гэта амплітуда — ад "мікра" да "макра" — ці "праз мікра — да макра" і наадварот — і вызначае абсяг паэзіі Міраславы Лукшы, абсяг яе творчага пошуку і творчых дасягненняў.

Ці не мала гэта — сказаць усяго некалькі слоў пра паэта, які выдаў ужо не адну паэтычную кніжку ("Замова", Беласток, 1993, "Ёсць", Беласток, 1994)?

Пісаць пра паэзію — няўдзячная справа: што можа быць лепей таго, што ўжо створана аўтарам?! Паэзію трэба проста чытаць! І тады — чытаючы — сам зразумееш, пра што хацеў сказаць аўтар, з чым ён прыйшоў да цябе, зразумееш яго філасофію, бо паэзія і ёсць філасофія, зашыфраваная ў вобразах, якую спасцігаеш спачатку душою, а потым ужо — пасту-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

---

**1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА**



**НА ЗДЫМКУ: Дом-сядзіба паэта Адама МІЦКЕВІЧА ў Навагрудку.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

---

*СЯРОД КНІГ*

## НА ТЭМУ ВЕЧНАСЦІ – АБ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

Мінулым летам, едучы на Другі з'езд беларусаў свету, завітаў да мяне ў Ліду даўні сябра і калега па журналістыцы Міхась Хмялеўскі. Гэта шчыры і адданы справе беларушчыны чалавек з Беластока. Прызнаюся, шаноўны Міхась Іванавіч заўсёды наведваецца з падарункамі і без іх не выпусціць сяброў са свайго доміка. І яшчэ адно прызнанне: для мяне, як і для Хмялеўскага, найлепшым дарам з'яўляюцца беларускія кнігі. Апошнім такім дарункам Міхася стала яго невялікая кніга "І так бывала". Хоць коратка, раскажу пра гэта выданне.

Больш за трэць стагоддзя працаваў мой сябра ў журналістыцы, амаль 33 гады — у рэдакцыі тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва". А яшчэ адзін час узначальваў Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Прафесійныя і грамадскія абавязкі падарылі Міхасю вельмі шмат сустрэч і ўражанняў, прыемных і не вельмі. Аб іх і расказвае шчыра аўтар. У кароткіх замалёўках- абразках апавядае пра харастве чалавека і яго заганы. Нельга без захаплення і замілавання чытаць мініяцюры пра мужнасць і самаахвярнасць сялян з-пад Беластока і Гарадка, Бельска і Саколкі, Крынак і Гайнаўкі, што ратавалі ў 1941 годзе чырвонаармейцаў-акружэнцаў і ваеннапалонных, а затым памагалі ім ужо як партызанам. І сёння жахліва становіцца на душы ад радкоў, якія апавядаюць аб трагедыі ў роднай вёсцы нацыянальнага героя Беларусі Сяргея Прытыцкага — Гаркавічы. 8 сакавіка 1942 года немцы расстралялі там дзевяць бязвінных ахвяр, у тым ліку і сваякоў незабыўнага Сяргея Восіпавіча.

Кніжка расказвае аб праўдзівых здарэннях, розных бедах людзей. Чалавек чалавеку, на жаль, часта прыносіць крыўду і няшчасце, нават сваім родным і блізкім. Пра што пераканаўча сведчаць хоць невялікія, ды павучальныя апавяданні "Пасаг ці жонка?", "Труна", "Чужыя языкі", "Украла мужа", "Скандал у альтанцы", "Саладзілі бацькі і дзеці", "Грошы перамаглі гонар", "Не прыносіце ты кветак жывому..." і іншыя. Прачытаўшы змястоўную і цікавую кнігу, міжволі вяртаешся да высновы аўтара: "Жыццё прыгожае. Жыццё чалавека вельмі кароткае. І трэба пражыць яго прыгожа, адкінуўшы зайздрасць, злосць, крывадушнасць, хлусліваць, жорсткасць..."

Сустрэча з Міхасём Хмялеўскім, сялянскім сынам з суседняй маймý Прынямонню Сакольшчыны, здольным журналістам-публіцыстам і прыстойным чалавекам, — адна з радасных падзей майго жыцця мінулага 1997 года. Я ўдзячны сябру за яго мудрую кнігу, разам з ім раздзяляю радасць, што яго сын Юрка, вайсковы лекар, адзін са спонсараў бацькавага зборніка, летась стаў падпалкоўнікам. Чакаю новых спатканняў з Міхасём Хмялеўскім і іншымі беларусамі Беласточчыны.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

г. Ліда.

# ПАЯДНАННЕ З ПЕСНЯРОМ

Сустрэчы ў Коласавым доме... Яны даўно ўжо сталі традыцыйнымі. Звычайна тут збіраюцца людзі цывільныя. Гэтым разам насельнікамі самага вялікага пакоя музея (пры жыцці гаспадара ён служыў гасцёўняй) былі вайскоўцы.

Гасцей прывітаў старшы навуковы супрацоўнік музея Якуба Коласа Іван Курбека. Затым ён, заўсёдны вядучы сустрэч, расказаў пра повязь народнага паэта з абаронцамі спакою і міру на зямлі, пра ваенную тэматыку ў яго творчасці. Сам Колас быў калісьці салдатам, нават малодшым афіцэрам царскай арміі. У Вялікую Айчынную не служыў: узрост не дазваляў (меў 59, калі пачалася вайна). Пясняр, знаходзячыся ў эвакуацыі, змагаўся з фашысцкімі захопнікамі сваім палымяным мастацкім словам, выступаў некалькі разоў па Усесаюзным радыё. У Перамогу ўнёс важкі ўклад. За цыкл вершаў ваеннай пары атрымаў Дзяржаўную прэмію (па тым часе — Сталінскую 1-й ступені). Быў узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга.

Да такіх, як слухачы, юных воінаў у грознае ліхалецце звяртаўся Колас:

**Арлы маладыя,**
**Я вас пазнаю,**
**Бясстрашных і мужных**
**У грозным баю.**

**Арлы маладыя,**
**Юначая кроў,**
**І радасць вы наша,**
**І наша любоў!**

Ужо ў мірны час, праз колькі месяцаў пасля Перамогі, пясняр напісаў верш "Зварот", своеасаблівы гімн воіну-пераможцу:

**Ідзе паважна пераможац —**
**Бывалы, стрэляны салдат.**
**І думкі ў мірным падарожжы**
**Настроіў ён на мірны лад.**

**Пацісну я руку герою,**
**Скажу яму, як друг, як брат:**
**Як многа сілы ў сабе тоіш,**
**Зямлі вялікай сын, салдат!**

Слухаюць мірныя воіны і на момант становяцца адрасатамі гэтых слоў.



Пра шляхі-дарогі, якія давялося прайсці ваенным ліхалеццем, расказаў пісьменнік Іван Кудраўцаў. А яшчэ і пра тое, як напісаны быў раман на матэрыяле перажытага. Твор знаходзіцца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" і рыхтуецца да выхаду ў свет.

З надзвычайнай увагай слухалі хлопцы малодшага сына песняра Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча (старэйшага, Данілы, не стала ў 1996 годзе, сярэдні, Юрка, загінуў на фронце ў першы год Айчыннай вайны). Ён раскрыў некаторыя "таямніцы" жыцця-быцця свайго бацькі, добрым словам успомніў маці, стваральніцу спакою і лагоды ў доме. Марыя Дзмітраўна была найпершым памочнікам і дарадцам, чытачом і крытыкам Якуба Коласа. Успомніў прамоўца сваё маленства. Гэта ж пра яго напісана паэма "Міхасёвы прыгоды"! Расказаў пра сваіх братоў. Даніла аддаваўся болей чытанню кніг, Юрка — паляванню. Быў першакласным стралком па стэндавай стральбе. Ад яго і Міхась навучыўся — пазней стаў майстрам спорту. І Колас, аказваецца, быў выдатным стралком — у царскай арміі лепш за іншых саслужыўцаў паражаў цэлі з нагана.

Даспадобы прыйшоўся воінам і Пятро Прыходзька, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, падпалкоўнік у адстаўцы. Ён натхнёна прачытаў вершы на вайсковую тэматыку і прысвечаныя песняру. Вялікую Айчынную паэт прайшоў ад пачатку да канца, у арміі нямала гадоў служыў і пасля Перамогі.

Завяршыў гэтую памятную сустрэчу ансамбль "Менскі гармонік". Салісткі Наташа Мельнік і Алена Батракова задушэўна праспявалі песні свайго кіраўніка на словы беларускіх паэтаў і яго асабістыя пад акампанемент самога Івана Раманчука.

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

**НА ЗДЫМКАХ: вечарына ў музеі Якуба Коласа. Выступае Іван КУДРАЎЦАЎ.**

**Фота Алеся ФЕДАРЭНКІ.**

# НА ХУТАРЫ, КАЛЯ ПЛЯСАВІЧ

Мясціна, дзе прытуліўся хутар Івана Марцэвіча, прывабная. З двух бакоў яе атуляе лясок. Зялёны, вясёлы. Перад хатай — шырокае калгаснае поле. Таксама не голае: аж да гарызонта яно аздоблена купкамі кучаравых бяроз ды цемнаватых хвоек.

— Хутар як хутар, — смяецца гаспадыня Зінаіда Вацлаваўна. — Ёсць усё: і сад, і агарод.

Яблыкі якраз даспелі. Дрэвы былі ўсыпаны чырванабокімі штрыфелямі, сакавітажоўтымі антонаўкамі.

— Ураджай багаты, — дадае Іван Пятровіч. — Вось толькі дзяваць няма куды. Самі гэтулькі спажыць не зможам, а прадаць... Ва ўсіх ёсць свая садавіна, а нарыхтоўшчыкі не бяруць.

Я згадаў, што ўчора на рынку ў Лідзе цудоўныя каштэлі прадавалі ўсяго па дзве з паловай тысячы рублёў за кілаграм — у чатыры разы танней, чым у Мінску. Амаль бясплатна.

Віктар заняўся гаспадарамі, пачаў фатаграфаваць іх. А ляснічы Бердаўскага лясніцтва Лідскага лясгаса Мікалай Скарабагаты расказаў мне пра сям'ю, у якую прывёз.

Іван Пятровіч працаваў на чыгунцы. Быў адным з лепшых абходчыкаў. Акуратны, дысцыплінаваны, ён трымаў свой абход ва ўзорным парадку. Такі ж парадак навёў і ў лясным абходзе, калі перайшоў у лясгас. Абход яго побач з Лідай — горадам вялікім, публікай размаітай. Сярод яе хапала браканьераў. Аднаму, глядзіш, лясіна спатрэбілася, а таму, бач, зайчаціны захацелася. Давялося шмат "павяваць" з такімі браканьерамі. Але свайго дамогся: браканьерства стала рэдкасцю. Лягчэй уздыхнулі лясы, вальней адчулі сябе дзікія жывёлы.

Але час браў сваё, пайшоў Іван Марцэвіч на пенсію. Пайшоў спакойна, не баючыся, што нехта пасля яго павядзе гаспадарку "не так", бо перадаў яе ў рукі сына Віктара. Хлопец удаўся ў бацьку: такі ж клапатлівы, гаспадарлівы. Іван Пятровіч таксама не адышоў ад "лясных спраў", дзе тут адыдзеш, калі ў абход за дзевяць гадоў уклаў столькі душы?

Ды і сыну памагчы трэба, перш за ўсё парадай, падказкай. Стаў Віктар кваліфікаваным кансультантам. Сын засвоіў бацькавы прыёмы работы. Набыў спецыяльнасць вальшчыка лесу. З бензапілой дапамагае суседнім леснікам.

— Абход Віктара, як і ў бацькі, адзін з лепшых у нашым лясніцтве, — сказаў Мікалай Мікалаевіч.

— А цяпер, калі ласка, у хату, час абедаць, — запрасіла гаспадыня. Спроба ветліва адмовіцца выніку не дала.

— У нас так не прынята, — настаяла Зінаіда Вацлаваўна. — Чым багаты, тым і рады.

Як у лясным абходзе, як у хутарскім двары, так і ў хаце: поўны парадак. Бяседа за сталом, вольная, шчырая, шмат чаго адкрыла з жыцця гэтай сям'і. Яна дружная, працавітая. Зінаіда Вацлаваўна вучыць дзяцей у пачатковым класе Споркаўскай васьмігодкі.

— Мусіць, неслухі? — пытаю.

— Не, — адказвае. — Добрыя дзеткі, цікаўныя.

Вочы настаўніцы засвяціліся дабрынёй. Яе жывы расказ пра сваіх выхаванцаў засведчыў яе высокую прафесійную этыку, чалавечую зацікаўленасць у тым, каб хлопчыкі і дзяўчынкі выраслі сапраўднымі людзьмі.

— А я вам нечым пахвалюся, — падхапілася гаспадыня і знікла ў суседнім пакоі. Прынесла і натхнёна прачытала вершаванае віншаванне ад калектыву да яе пяцідзесяцігоддзя. Так усхвалявана, з такой цеплынёй, гумаркам можна сказаць толькі чалавеку, якога глыбока паважаеш.

Іван Пятровіч, слухаючы гэтае віншаванне, паблажліва ўсміхаўся. Зінаіда Вацлаваўна да яго:

— Што, Ян, зайздросна, што такога не маеш?

І ў гэтым яе жартаўлівым "жэсце", асветленым усмешкай, адчулася прыязнасць іх узаемаадносін. Пасля ляснічы пацвердзіў такі мой вывад:

— Так, жывуць яны дружна. Ды і ўся сям'я такая. У іх поўная хата сыноў, дарослыя, дужыя хлопцы. Акрамя Віктара — Іван і Валерый. Іван працуе на будоўлі, а Валерый вучыцца ў Лідскім педвучылішчы.



Прыемна пазнаёміцца з сям'ёй, у якой у асноўым лад ды згода. Жывуць людзі добра для сябе і шмат дабра робяць іншым, берагуць прыроду, сярод якой жывуць.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

# БЫЛІ ЗДАЎНА САЦЫЁЛАГІ

І не дзе-небудзь, а на зямлі беларускай. Адзін з іх — Аарон (вядомы таксама пад імёнамі Адам, Аляксандр) Алізароўскі (1618—1659), які ўвайшоў у гісторыю яшчэ і як правазнавец, палітолаг. А да ўсяго быў прафесарам Віленскай акадэміі, доктарам права. Паходзіў А. Алізароўскі з праваслаўнай сям'і. Атрымаў выдатную адукацыю: вучыўся ў навучальных установах Беларусі, Польшчы, Аўстрыі, Германіі і Італіі. Найбольш вядомая праца А. Алізароўскага — "Аб палітычнай супольнасці людзей", што выйшла ў Данцыгу ў 1651 годзе. А. Алізароўскі быў перакананы, што чалавецтва можа дасягнуць плённых поспехаў толькі тады, калі будзе ісці ўслед за прыродай. Ён становіча ацэньваў той грамадскі лад, што паўставаў са старонак знакамітай "Утопіі" Т. Мора. Надаваў вялікае значэнне фізічнай працы. А. Алізароўскі з'яўляўся годным прадаўжальнікам гуманістычных традыцый Ф. Скарыны, Літвіна, А. Валана. Як і яны, верыў у магчымасць маральнага ўдасканалення чалавека.

# ЖЫЦЬ НА ВЫСПЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

пова, на працягу пэўнага часу — ператвараеш яе ў філасофію свайго асабістага ўчынку ці дзеяння (вось вам, дарэчы, і практычная карысць ад таго, што нібыта не прыносіць ніякай карысці і нібыта не ўратоўвае свет).

Прачытайце цалкам верш на старонцы 22 з кніжкі "Замова", і вы зразумееце, пра што я хацеў сказаць:

**"на табе хлеб**
**еш**
**і не будзе табе болей страху...**
**...вымый свае чорныя вочы**
**на сябе паглядзі**
**і не будзе бяды..."**

Альбо, напрыклад, гэткае:

**"Цікава,**
**хто ж сёння**
**завязаў белы бінт**
**на вачах**
**Справядлівасці!"**

Альбо:

**"павесілі на сцяне нашага**
**вакзала**
**расклад усіх цягнікоў**
**да дабра і зла**
**ды нікому не ведаць дарогу**
**да Ітакі ссівелай..."**

І калі вы прачытаеце (і не толькі гэтыя вершы), то адчуеце, што і ваш свет, і свет Міраславы Лукшы амаль аднолькавыя. І ваша філасофія надта падобная на філасофію чалавека па імені Міраслава Лукша, падобная па той прычыне, што і там, і там мы маем адно — філасофію Выспы (бо кожны з нас — маленькая выспачка, якая не жадае згубіцца сярод іншых, сабе падобных).

Аднак філасофія Паэта Міраславы Лукшы — значна глыбейшая, значна шырэйшая, чым філасофія Выспы, бо ў філасофіі Выспы знаходзіць адлюстраванне філасофія маленькага куточка, асяродка, выспачкі, а ў той — глыбейшай — яшчэ і Святло, якое ідзе ад Сусвету. І абедзве гэтыя філасофіі — чыста жыццёвая, і касмічная — арганічна перапляцаюцца паміж сабой і зліваюцца ў адну, утвараючы філасофію Асобы, якая завецца Міраслава Лукша.

Ці лёгка гэта — жыць на Выспе Паэзіі?

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".**
**(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 118.**
**Падпісана да друку 26.1.1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**